ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 52 (2578)
ПЯТНІЦА
24
снежня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАЕНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.


Дом мастацтваў.


Дом афіцэраў.


Палац прафсаюзаў.


Архітэктурны помнік 18 веку.

Прыгажосць Мінска—невычарпальная тэма творчасці мастакоў. Здаўна знаёмыя, неаднойчы апетыя жывапісцамі і графікамі матывы паўстаюць перад зрокам па-новаму, калі прыглядзішся больш пільна. Тое, што засталося ў гарадскім краявідзе ад мінулага, мяняецца на фоне створанага сёння...

Гэта добра адчувае графік Анатоль Тычына, у чыёй творчасці тэма Мінска—адна з вядучых вось ужо колькі дзесяцігоддзяў. Нядаўна мастак стварыў серыю ліnагравюр, якія склалі альбом. Ён так і будзе называцца—«Мінск».

Прапануем некалькі «старонак» з гэтага альбома.


У дзіцячым парку імя М. Горкага.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# У СЯМ'І АДЗІНАЙ

**Мы працягваем расказваць пра тое, як работнікі культуры рэспублікі рыхтуюцца адзначыць 50-годдзе СССР.**

**Вось што расказаў нашаму карэспандэнту начальнік Гродзенскага абласнога ўпраўлення культуры А. Лыскоў.**

— Ва ўсёй нашай рабоце мы кіруемся рашэннямі XXIV з'езда КПСС. Нядаўна, як вядома, Міністэрства культуры БССР падтрымала пачын пастаўскіх культасветработнікаў, якія распрацавалі культурную пяцігодку раёна.

Гэты пачын падхоплены і работнікамі культуры Гродзеншчыны. Зараз ва ўсіх раёнах ідзе распрацоўка пяцігадовых планаў развіцця культуры.

Такія планы разглядаліся ўжо на сесіях райсаветаў дэпутатаў працоўных у Мастах і Астраўцы.

У нашай пяцігодцы мы звяртаем першачарговую ўвагу на ўмацаванне матэрыяльнай базы. Да 1975 года мяркуецца пабудаваць у вобласці 96 калгасных і саўгасных клубаў і дамоў культуры, 5 раённых дамоў культуры, 12 музычных школ і г. д.

Гэта рэальныя планы. І ажыццяўляюцца яны паспяхова. Вось-вось прыме першых наведвальнікаў цудоўны Палац культуры ў саўгасе «Навадворскі» Шчучынскага раёна. Акрамя залы на 400 месц, тут будуць памяшканні для бібліятэкі, гуртковай работы, рэпетыцый і г. д.

Літаральна днямі будзе здадзены ў эксплуатацыю Дзятлаўскі раённы дом культуры. Актыўна ідзе будаўніцтва раённых дамоў культуры ў Воранаве і Берастовіцы.

Другі наш вялікі клопат — кадры. Вядома, што ў вёсцы дагэтуль не хапае кваліфікаваных кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці. Але мы імкнёмся паправіць гэта. У Гродне працуюць дзесяцімесячныя курсы перападрыхтоўкі культасветработнікаў. Сёлета праз іх «прапушчана» ўжо 300 чалавек.

Цяпер вас, відаць, цікавіць, якія з найбольш значных мерапрыемстваў мы рыхтуем у бліжэйшы час. Гэта абласны фестываль фальклорнай творчасці. Спачатку ён пройдзе ва ўсіх раёнах, пасля пераможцы сустрэнуцца ў Гродне. Адначасова будзе праведзены конкурс-агляд масавай савецкай песні. Усё гэта мы прысвячаем 50-годдзю ўтварэння Савецкай дзяржавы.

Чытачоў «Літаратуры і мастацтва» зацікавяць і нашы культурныя сувязі з братнімі рэспублікамі. Яны ў нас трывала развіваюцца. Ну, па-першае, з нашай суседкай Літвой. Некалькі разоў абменьваліся канцэртамі раённыя дамы культуры нашага Шчучына і літоўскага горада Варэна. Выступаў у Літве Навагрудскі ансамбль песні і танца «Свіцязь». Прыязджаюць да нас і літоўцы. Так, нядаўна ў Воранаве пабывалі самадзейныя артысты з горада Шальчынінкай.

Ведаюць нашых самадзейных артыстаў і ў сталіцы нашай Радзімы — Маскве. Там выступаў на ВДНГ і быў вельмі цёпла сустрэты слухачамі Бароўскі народны хор.

# НАРОДНЫЯ ЎМЕЛЬЦЫ РАЯЦЦА

**М**ІЖРАЁННЫ дом народнай творчасці ў Маладзечне правёў занальную канферэнцыю народных умельцаў і самадзейных мастакоў.

Майстры народнай творчасці, абмяркоўваючы экспазіцыю апошняй міжраённай (занальнай) выстаўкі самадзейнай мастацкай творчасці, прыгадваючы папярэднія, засяродзілі асноўную ўвагу на пытаннях падрыхтоўкі да рэспубліканскага фестывалю самадзейнага мастацтва, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння Саюза ССР, і ўдзелу ў рэспубліканскім конкурсе, прысвечаным 90-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У выступленнях удзельнікаў канферэнцыі пастаўлены і абмеркаваны надзённыя арганізацыйныя пытанні творчасці народных умельцаў і самадзейных мастакоў.

У рабоце канферэнцыі прынялі актыўны ўдзел пераважна майстры старэйшага пакалення. Была і моладзь— удзельнікі выстаўкі, якія горача любяць мастацтва.

На канферэнцыі адзначана, у прыватнасці, што на выстаўках народнай творчасці ў большасці выстаўляюцца творы, выкананыя майстрамі фабрык мастацкіх вырабаў па ўзорах, распрацаваных мастакамі-прафесіяналамі, разнастайныя рамесныя вырабы і вельмі мала вырабаў, выкананых у традыцыйных матэрыялах, якія можна было б упэўнена аднесці да сапраўды народнага мастацтва.

Большасць удзельнікаў канферэнцыі пагадзілася на думцы, што забытае традыцыйнае здольна падказаць новыя магчымасці выкарыстання мясцовых матэрыялаў, трансфармацыі гэтых матэрыялаў, знаходжання новых форм, кампазіцыйных рашэнняў пры распрацоўцы сучасных вырабаў.

Пераасэнсаванне, далейшае развіццё народных традыцый у самадзейнай і прафесійнай дэкаратыўна - прыкладной творчасці — адзін са шляхоў далейшага развіцця талентаў народных умельцаў.

**Таццяна АСВЕЙСКАЯ.**

# САВЕТ ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ Ў ПОЛАЦКУ

У Полацку створан савет творчай інтэлігенцыі горада. У яго ўваходзяць музыканты, мастакі, самадзейныя артысты, члены літаратурнага аб'яднання «Наддзвінне» пры мясцовай газеце «Сцяг камунізма». Савет арганізаваў творчыя брыгады, якія выступаюць перад працаўнікамі заводаў і фабрык горада, калгаснікамі і рабочымі саўгасаў раёна.

Ужо адбыўся першы семінар творчай інтэлігенцыі, у якім прынялі ўдзел работнікі абкома камсамола, паэт Давід Сімановіч, кампазітар Аркадзь Гоман, мастакі Генадзь Шаура і Барыс Скуловіч, работнікі абласной студыі тэлебачання.

Адбыўся таксама вечар-справаздача вакальна-інструментальнага ансамбля «Сучаснік» педагагічнага вучылішча імя Скарыны.

**Н. ГАЛЬКЕВІЧ.**

# ЗАЛАТЫ ЮБІЛЕЙ ПАЛІГРАФІСТАЎ

Фабрыцы «Палесдрук» споўнілася пяцьдзесят гадоў. Паўвекавая гісторыя аднаго са старэйшых паліграфічных прадпрыемстваў рэспублікі мае нямала яркіх старонак працоўнага і баявога гераізму. Створаная на базе дробных саматужных друкарань у снежні 1921 года, фабрыка праз пяць гадоў пачала ўжо выпускаць прадукцыі больш чым на мільён рублёў.

Ішоў час. Прадпрыемства расло, папаўнялася новым абсталяваннем, мужнеў яго калектыў. У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны тут друкаваліся газеты «Звязда», «Советская Белоруссия» і шэраг іншых рэспубліканскіх выданняў. Дзейнічаў спецыяльны ўчастак па выпуску лістовак на нямецкай мове для распаўсюджвання іх сярод салдат праціўніка.

У пасляваенныя гады фабрыка хутка аднаўляе свае даваенныя вытворчыя магутнасці, а затым паслядоўна і няўхільна нарошчвае іх. За мінулую пяцігодку, дзякуючы тэхнічнаму пераўзбраенню, аб'ём выпуску прадукцыі вырас на 31,6 працэнта, прадукцыйнасць працы — на 34 працэнты. Фабрыцы прысвоена званне «Прадпрыемства высокай культуры вытворчасці».

Добры старт узялі паліграфісты ў новай пяцігодцы — план 11 месяцаў па ўсіх тэхніка-эканамічных паказчыках перакрыты. Звышпланавай прадукцыі рэалізавана больш чым на сто тысяч рублёў.

У сувязі з юбілеем у абласным драматычным тэатры адбыўся ўрачысты сход калектыву фабрыкі. На ім былі ўручаны прадпрыемству Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, а групе перадавікоў вытворчасці — Ганаровыя граматы і Граматы Вярхоўнага Савета БССР.

Удзельнікі сходу прынялі прывітальнае пісьмо Цэнтральнаму Камітэту КПСС, Прэзідыуму Вярхоўнага Савета СССР і Савету Міністраў Саюза ССР.

**БЕЛТА.**

# НА ПАРАДКУ ДНЯ— ТВОРЧЫЯ ПЫТАННІ

**Ч**АРГОВАЕ пашыранае пасяджэнне партыйнага бюро Саюза пісьменнікаў БССР было прысвечана творчым пытанням. Кіраўнікі секцыі прозы і дзіцячай літаратуры камуністы Янка Скрыган і Васіль Хомчанка расказалі аб рабоце гэтых секцый і планах на будучыню.

Аляксей Кулакоўскі, Максім Танк, Іван Шамякін, Эдзі Агняцвет, Васіль Вітка, Аляксей Русецкі, Мікола Гамолка адзначалі, што работа секцый не стаіць яшчэ на тым узроўні, на якім хацелася б яе бачыць. Не ўсе секцыі да гэтага часу склалі планы работы. На творчых вечарах пісьменнікаў, якія арганізоўвала секцыя прозы, на думку Максіма Танка, часам сам аўтар гаворыць аб сабе, але не чуе належнага крытычнага разгляду сваёй творчасці. Іван Шамякін звярнуў увагу на неабходнасць абмяркоўваць на секцыях маштабныя надзённыя пытанні. Патрэбна шчырая гаворка на секцыі аб творчасці.

— Наша работа—п'есы, — сказаў Андрэй Макаёнак.—Калі пішуцца п'есы, значыць секцыя працуе. Новыя п'есы напісалі Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Мікола Матукоўскі, Анатоль Дзялендзік. Гэтыя п'есы неўзабаве будуць пастаўлены на сцэнах тэатраў рэспублікі і за яе межамі.

Па абмеркаваных пытаннях бюро прыняло рашэнне.

# СЛОВА АБ САВЕЦКАЙ КІРГІЗІІ

**К**АЛЯ чатырох з палавінай тысяч кіламетраў аддзяляюць сталіцы дзвюх брацкіх саюзных рэспублік —Савецкай Беларусі і Савецкай Кіргізіі. Але дружба савецкіх народаў, народжаная і загартаваная пад кіраўніцтвам Ленінскай партыі, якая стварыла і згуртавала Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, не ведае межаў і адлегласцей.

Гэтыя словы гучалі на чарговым тэматычным вечары з цыкла «Широка страна моя родная», які праводзіць у гонар 50-годдзя ўтварэння СССР Палац культуры прафсаюзаў. Гасцямі мінчан былі пасланцы народа краіны гор і арлоў — Савецкага Кіргізстана.

Пісьменнік Алжабай Аразбаеў расказаў аб поспехах працоўных Кіргізскай ССР. За гады Савецкай улады ў мінулым адсталы край ператварыўся ў квітнеючую Савецкую Рэспубліку. Гэта стала магчыма дзякуючы вялікай дружбе савецкіх народаў, клопатам Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада аб росквіце ўсіх саюзных рэспублік.

Затым выступілі кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў Кіргізскай ССР, рэктар Інстытута мастацтваў Кіргізскай ССР Насыр Даўлесаў і воін-кіргіз Махамед Махмудаў.

Гасцей вітаў беларускі кампазітар Кім Цесакоў.

Цёпла сустрэтая прысутнымі, выступіла заслужаная артыстка Кіргізскай ССР, лаўрэат усесаюзнага і міжнародных конкурсаў, салістка Кіргізскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета Саліма Бекмуратава.

**БЕЛТА.**

# ЦІКАВЫ ВЕЧАР

Імя Паўла Ільіча Лавута, аўтара кнігі «Маякоўскі едзе па Саюзе», шырока вядома аматарам літаратуры нашай краіны. Доўгі час ён быў сакратаром Уладзіміра Маякоўскага, суправаджаў яго ў паездках па краіне.

У гэтыя дні Павел Ільіч — госць беларускай сталіцы. Мінчане цёпла прынялі першыя яго творчыя вечары. Днямі П. Лавут выступіў у клубе Саюза пісьменнікаў БССР. З прывітальным словам да яго звярнуўся крытык Рыгор Бярозкін. Выступленне колішняга сакратара Уладзіміра Маякоўскага, яго ўспаміны пра вялікага савецкага паэта выклікалі цікавасць у прысутных.

У заключэнне быў паказан мастацкі фільм вытворчасці 1918 года «Барышня і хуліган», у якім галоўную ролю выконвае Маякоўскі.

**А. ГАБРЫЭЛЯН.**

# ІХ ПРЫЗВАННЕ—КНІГА

## МАГІЛЁЎСКАМУ БІБЛІЯТЭЧНАМУ ТЭХНІКУМУ — 25 ГАДОЎ



Удзельніцы вакальнага ансамбля тэхнікума на рэпетыцыі.
Фота А. ГОЛЬІША.

**Л**Я ГЭТАГА сціплага чатырохпавярховага будынка часцей за ўсё напаткаеш дзяўчат. Вясёлай гаманкой чародкай спяшаюцца яны на заняткі. У руках — партфелікі з кнігамі, сшыткамі. Каля 70 выкладчыкаў Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума імя А. С. Пушкіна вучаць іх цаніць і ведаць кнігу, умець яе прапагандаваць. Гэта выкладчыца гісторыі партыі і грамадазнаўства, заслужаная настаўніца БССР В. Кротава, выкладчыца беларускай літаратуры — Л. Міхальцова, бібліятэказнаўства — М. Галавізніна, бібліяграфіі — Я. Міхайлоўская і многія іншыя. Выкладаюцца ў тэхнікуме і такія дысцыпліны, як арганізацыя бібліятэчных фондаў і каталогаў, культура мовы, дзіцячая і руская літаратура, геаграфія, гісторыя. Шмат розных дысцыплін вывучае бібліятэкар, каб стаць усебакова адукаваным чалавекам, добрым знаўцам кнігі.

Сёння ў тэхнікуме на стацыянары і на завочным аддзяленні вучыцца каля 1 500 чалавек. Прафесія бібліятэкара сціплая, але як многа значыць ён у нашым грамадстве!

Не знойдзеш сёння раёна рэспублікі, дзе б не было выхаванцаў Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума. Самыя лепшыя з іх удастоены высокіх урадавых узнагарод. Адна з першых выпускніц тэхнікума (1949 г.) М. Канькова загадвае Талачынскай раённай бібліятэкай, узнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і сярэбраным медалем Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі. Далёка за межамі рэспублікі славіцца дружны калектыў Крупскай раённай бібліятэкі, якую ўзначальвае І. Алексіевіч. Выхаванец нашага тэхнікума — і абаронца Брэсцкай крэпасці - героя, пісьменнік Алесь Махнач. Многія выпускнікі ўзнагароджаны юбілейнымі Ленінскімі медалямі, граматамі Вярхоўнага Савета БССР, міністэрстваў культуры СССР і рэспублікі.

Тэхнікум рыхтуе кадры, галоўным чынам, для сельскіх бібліятэк. Колькі цёплых слоў падзякі заслужылі ад сваіх чытачоў загадчыкі сельскіх бібліятэк Мая Гладкая і Люба Мяжэнная з Горацкага раёна, Ніна Сычова і Валянціна Сафонава (Аршанскі раён), Людміла Коўзель (Полацкі раён) і многія іншыя.

Наш тэхнікум адкрыты чвэрць стагоддзя назад, у 1946 годзе. Нялёгкі гэта быў час. Гаспадарка разбурана, горад ляжаў у руінах. І ўсё ж урад знайшоў магчымасць адкрыць тэхнікум, маладыя спецыялісты якога дапамаглі б аднавіць бібліятэчную сетку рэспублікі. Мінула 25 гадоў. За гэты час выпушчана каля шасці тысяч бібліятэкараў. Кніга стала іх прызваннем. Яны прапагандуюць яе сярод насельніцтва, актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці.

А жыццё студэнцкае тым часам бурліць. Праводзяцца тэарэтычныя канферэнцыі, лекцыі і даклады, абмеркаванні кніг, вусныя часопісы, тэматычныя вечары, сустрэчы з ветэранамі рэвалюцыі, Вялікай Айчыннай вайны і працы. Ідуць рэпетыцыі хору, вакальнага ансамбля і іншых калектываў мастацкай самадзейнасці. Навучэнцы, члены гуртка «Кругагляд», падрыхтавалі 25 гутарак і рэфератаў па матэрыялах XXIV з'езда партыі. У час вытворчай практыкі ў сельскіх бібліятэках Магілёўшчыны гурткоўцы выступалі з гэтымі рэфератамі перад насельніцтвам.

Ёсць у нас гурток «Сябры кнігі», літаратурны гурток. Пачаткоўцы выпускаюць рукапісны зборнік сваіх твораў. Лепшыя вершы, апавяданні друкаваліся на старонках «Магілёўскай праўды».

**К. НЕСЦЕРАЎ,**
дырэктар Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума імя А. С. Пушкіна.

# Аляксандр Трыфанавіч ТВАРДОЎСКІ



## РАЗВІТАННЕ

Цяжка і горка гаварыць аб гэтай незваротнай страце. Пасля смерці Маякоўскага не было такога вялікага гора ў савецкай паэзіі. Абое яны былі найвялікшымі песнярамі сацыялістычнай Радзімы.

«Краіна Муравія» — выдатная паэма Аляксандра Твардоўскага, яна была і ёсць лепшым паэтычным творам пра людзей эпохі калектывізацыі. «Васілій Цёркін», паэмы, вершы ваенных гадоў былі грознай зброяй у змаганні з фашызмам. «За даллю даль» уражвае чытача сваім размахам, свежасцю паэтычных фарбаў, сілай абагульнення.

Усё жыццё Аляксандра Трыфанавіча Твардоўскага — паэтычны і грамадзянскі подзвіг у імя камунізма. Яго творы будуць жыць вечна.

Мы нізка схіляем галовы над салдацкай магілай выдатнага рускага савецкага паэта Аляксандра Трыфанавіча Твардоўскага.

**Пімен ПАНЧАНКА.**

## АДНА ДАТА

...Малады падгалісты, захмялелы ад смутнага палыну мінскіх руін, у сорак пятым нечакана з'явіўся дэмабілізаваны падпалкоўнік. «Праздничный, веселый, бесноватый...»

Аляксандр Твардоўскі вяртаўся ў Маскву з новай паэмай.

Бурліла нязломная сіла ў ім. Ён добра ведаў цану сабе і, вядома, сваёй паэзіі. З мяккай усмешкай, задуманы, слухаў вершы. Часта ў вачах ззялі вострыя хітрынкі, але яны адразу згасалі, вочы наліваліся буйной слязой, калі пачынаў ён сам чытаць па памяці:

Як ад роднай галінкі дубовы
лісток адарваны,
Родны Мінск я пакінуў,
нямецкай бамбёжкаю гнаны...

Верны друг паэзіі Аркадзя Куляшова. Друг усёй нашай паэзіі. Неяк у Маскве ён выступаў на салідным форуме паэтаў і перакладчыкаў, многія помняць гэтае выступленне:

— Беларуская паэзія мне заўсёды ўяўляецца маладым мурожным, росным лугам. А, бывае, з-пад рукі вашай, паны перакладчыкі, яна выглядае падсохлым, хоць і прыемным на нюх сенам...

Чарадзей рускай мовы. Волатнае імя ў вечна жывым страі волатных імён паэзіі расійскай.

У Парыжы Іван Бунін казаў, што даволі аднаго «Васілія Цёркіна», каб імя аўтара кнігі пра байца назаўсёды засталося ў гісторыі айчыннай літаратуры.

У кароткім чалавечым лёсе ёсць дзве абавязковыя даты, якімі вымяраецца жыццёвы шлях. У Паэта толькі адна дата — дата нараджэння.

Я — где крик петушиный
На заре по росе;
Я — где ваши машины
Воздух рвут на шоссе...

**Анатоль ВЯЛЮГІН.**

## ПУХАМ ТАБЕ ЗЯМЛЯ!

Ён доўга і цяжка хварэў, неймаверна пакутуючы, і ўсе, каму дарага літаратура, не пераставалі сачыць за гэтым амаль двухгадовым адзінаборствам вялікага чалавека са смерцю, у якім, як гэта ні прыкра і ні балюча, урэшце перамагла смерць. Ніколі ўжо больш мы не пабачым ягоную мажную постаць, не сустрэнем ягонага такога зменліва-пранікнёнага позірку, не пачуем голасу, у якім было так шмат рознага—ад шчырае радасці, захаплення да клопату, абурэння і гневу. Так, ён не быў бессмяротны і ўрэшце пайшоў ад нас, і як сціплае суцяшэнне для нас засталіся яго кнігі, яго неўміручыя паэмы, якія доўга яшчэ будуць саграваць чалавечыя душы сваім, назапашаным у іх, святлом.

Ад самай маладосці і амаль праз усё складанае і нялёгкае жыццё яго суправаджаў тым не менш на дзіва шчаслівы літаратурны лёс. Даволі нячаста гэтак бывае ў мастацтве, каб слава, якая прыйшла да чалавека ў пару яго маладосці, з такой нязменнасцю заставалася вернай яму на ўсё жыццё. Але тут, мабыць, справа не так у вартасці самой славы, як у пэўнай удачлівасці яе ўвогуле прывярэдлівага выбару—гэты чалавек, несумненна, заслугоўваў і яшчэ большага.

Ён пражыў нямнога болей за 60 год, на працягу якіх ім, можа больш, чым кім-небудзь іншым, зроблена для росквіту і без таго не беднай на таленты рускай літаратуры.

Глыбока нацыянальны і ў той жа час надзвычай агульначалавечы ягоны герой паўстае са старонак шматлікіх кніг, прысвечаных, як правіла, самым кардынальным момантам пяцідзесяцігадовай савецкай рэчаіснасці—ад карэннай перабудовы сельскай гаспадаркі ў гады калектывізацыі, праз фінскую і Вялікую Айчынную войны, пасляваенны аднаўленчы перыяд, гады заваёвы космасу. Ягоныя паэмы «Краіна Муравія», «Васілій Цёркін», «Дом ля дарогі», «За даллю—даль», «Цёркін на тым свеце» даўно ўжо зрабіліся класікай савецкай паэзіі. Кожная з гэтых паэм стала ў свой час з'явою, за кожнай з іх—складаная гісторыя яе стварэння, крытычныя баталіі ці аднадушнае прызнанне пры іх першым жа паяўленні ў друку. Сапраўды, зайздросны лёс!

Як і ў ранейшыя гады, так і цяпер, пасля яго смерці, будзе шмат спроб разгадаць яго паэтычны феномен, адкрыць сакрэт яго надзвычайнай папулярнасці, разабрацца ў багатай разнастайнасці яго творчасці, пачатай больш за сорак пяць год назад невялічкім вершыкам пад сціплаю назвай «Новая хата». Як заўжды ў такіх выпадках, цяжка пазбегнуць пэўнае рызыкі і безумоўнай адноснасці ў вызначэнні паэтычнае сутнасці мастака, аснова якой, вядома, грунтуецца на ягоным адметным таленце. Але, здаецца, ёсць усе падставы сцвярджаць, што ягоную крыштальную па класічнай чысціні паэтыку больш за ўсё вызначае, сярод безлічы іншых талентаў, яго незвычайная і нязменная ў гадах вернасць такім вызначальным у мастацтве катэгорыям, як Праўда, Прастата і Шчырасць.

Думаецца, менавіта гэтыя якасці пры высокай ступені грамадзянскай сумленнасці і адметнасці паэтычнага таленту забяспечылі такое доўгае жыццё яго паэмам, яго сціплай, стрыманай і такой ёмістай на пачуцці лірыцы. Тут, мабыць, у пэўным сэнсе яму пашанцавала ў самым пачатку, бо тое, да чаго нярэдка прыходзяць пад канец шляху, пасля шэрагу пакутных няўдач і доўгіх пошукаў і без чаго немагчыма мастацтва, калі яно не хоча ператварыцца ў пустую забаўку для снобаў, гэта неабходнае ён спасціг у самым пачатку. У зачыне свае «Кнігі пра байца», пералічыўшы тое, без чаго немагчыма на вайне, аўтар выказвае найважнейшую сваю выснову, што «всего иного пуще не прожить наверняка —без чего? Без правды сущей, правды, прямо в душу бьющей, да была б она погуще, как бы ни была горька».

Гэтаю яго пранізлівай, «прямо в душу бьющей» праўдай моцна азначаны ўсе ягоныя паэмы, артыкулы, яго выступленні, уся яго ваенная лірыка—ад вершаў, напісаных ім у снягах Карэльскага перашыйка, да славутага «Я забіты пад Ржэвам» або нядаўняга адзінаццацірадкоўя, зусім ужо бяздонна-бязлітаснага ў сваёй сэнсавай і эмацыянальнай ёмістасці: «Я знаю, никакой моей вины в том, что другие не пришли с войны, в том, что они—кто старше, кто моложе—остались там, и не о том же речь, что я их мог, но не сумел сберечь,—речь не о том, но все же, все же, все же...»

Можна доўга і падрабязна разважаць аб тым, што датычыць ягоных паэм і вершаў—даўніх і напісаных у апошняе дзесяцігоддзе, аб яго чалавечых і грамадзянскіх якасцях. Пісаў ён увогуле небагата і ў апошні час друкаваўся мала, затое кожны яго радок быў радасцю для чытача незалежна ад таго, ці гэта кароткі лірычны верш накшталт прыведзенага вышэй або «В живых-то меня уже нету...», ці грунтоўны літаратуразнаўчы артыкул, як, напрыклад, аб творчасці І. Буніна, ці прадмова да чыіх-небудзь публікацый у часопісе, які ён шмат год узначальваў. Некалькі год назад надрукаваны яго дзённікі-ўспаміны «З Карэльскага перашыйка», якія не маглі не ўразіць кожнага сваёю ўзноўленай навізной у адлюстраванні той невялікай, амаль ужо забытай вайны. Цікава заўважыць, што гэта невялічкая рэч адкрывае сабой выразна акрэсленыя вытокі Твардоўскага-баталіста, аўтара бессмяротнай «Кнігі пра байца». Менавіта там зімою 1940 года з'явілася для яго тэма Васілія Цёркіна, якую затым ён пранёс праз усю пакутна-доўгую Айчынную вайну і якая канчаткова замацавала за ім славу аднаго з самых лепшых савецкіх паэтаў.

Апрача шмат якіх іншых якасцей, у гэтых запісках уражвае незвычайная аўтарская назіральнасць, яго на дзіва свежая, нічым не замутненая памяць, якая проста неверагодная без нечага істотна-душэўнага, чым валодае далёка не кожны з нашых нават і даравітых мастакоў. Мастацкая дакладнасць кожнай самай нязначнай на першы погляд дэталі, глыбінная пранікнёнасць думкі, адсутнасць нават аддаленага напамінку на другаснасць, рэмінісцэнтнасць пры выразнай наяўнасці сапраўды гуманістычнае першаасновы зблізкае гэтую прозу з самымі лепшымі творамі рускай літаратуры і найперш —з «Севастопальскімі апавяданнямі» Л. Талстога. Абедзве гэтыя рэчы ляжаць у гуманістычным рэчышчы сусветнай літаратуры на тэму вайны.

Пры самых, можа, празмерных дапушчэннях цяжка перабольшыць ягоны ўплыў на савецкую паэзію пасляваенных год ды і прозу таксама. Наўрад ці знойдзецца хто другі ў нашай літаратуры, хто б мог з ім параўнацца ў выхаванні маладзейшых рускіх і не толькі рускіх пісьменнікаў. Я думаю, што ў гэты жалобны час развітання разам з многімі іншымі не абмінуць яго шчырай удзячнасцю шмат якія і нашы беларускія аўтары, пачынаючы ад Аркадзя Куляшова, творчасць якога ён заўжды надзвычай высока цаніў, да маладзейшых—А. Вярцінскага, В. Адамчыка, аўтара гэтых радкоў, чые творы ў свой час мелі гонар трапіць на яго рэдактарскі стол. Праходзячы ў яго суровую па сваёй патрабавальнасці школу літаратуры, мы пасцігалі вышыню яе ідэалаў, пазбаўляліся рэштак правінцыяльнага верхаглядства, вучыліся не баяцца несправядлівае жорсткасці крытычных прыгавораў. І калі такія прыгаворы здараліся, ён не меў звычаю пакідаць сам-насам безабароннага аўтара або паспешліва пазбаўляць яго крэдыту даверу. Наадварот: якая б няўдача ні спасцігла аўтара, калі ён паверыў у каго, дык ужо не мяняў гэтае свае веры і падтрымліваў, як толькі мог. Адступніцтва было не ў яго характары.

Літаратура ствараецца не для аднаго дня і не для якой-небудзь чарговай кампаніі — яе жыццё мераецца дзесяцігоддзямі, і кожны твор жыве тым даўжэй, чым болей у ім закладзена ад праўды народнага жыцця. Іменна клопатамі аб даўгавечнасці літаратуры і яе праўдзівасці былі прасякнуты яго вядомыя выступленні на партыйных і пісьменніцкіх з'ездах, на сустрэчах з журналістамі і чытачамі. Адказваючы на папрокі некаторых крытыкаў адносна ягонай нібыта непрыхільнасці да рамантычнай плыні ў літаратуры, ён гаварыў, што справа не ў плыні, а ў кожным канкрэтным літаратурным творы. І калі гэты твор захоплівае душу, дае чытачу жыццёвую радасць пазнання, «я менш за ўсё заклапочаны высвятленнем таго—рамантызм гэта ў чыстым выглядзе, або яшчэ што. Я проста ўдзячны аўтару за добры падарунак,—гаварыў ён.—Але калі мне падносяць штосьці хадульнае, дзе жыццё даецца ў такіх умоўных дапушчэннях так званай «прыўзнятасці», што хочацца вочы заплюшчыць ад няёмкасці, і кажуць, што гэта трэба чытаць, гэта рамантызм, то я кажу—не».

Ён часта напамінаў аб вядомай у літаратуры ісціне, што галоўным крытэрыем вартасці любой кнігі з'яўляецца ступень абавязковасці яе паяўлення ў даны час. Адмятаючы ўсе фармалістычныя штукарствы, хоць і не адмаўляючы значэння літаратурнага эксперыменту ў цэлым, ён рашуча станавіўся на абарону інтарэсаў чытача. У гэтым сэнсе ён высока цаніў такія далёка не традыцыйныя па форме, але поўныя сацыяльнага значэння творы заходняй літаратуры, як «Чума» А. Камю, «Насарог» Э. Іянеску, «Па кім звоніць звон» Э. Хэмінгуэя, фільм «Евангелле ад Матфея» Пазаліні. Разважаючы на тэму злітнасці формы і зместу, ён гаварыў, што безадказнасць, бесклапотнасць адносна формы вельмі часта цягне за сабой абыякавасць чытача да зместу твора, таксама як і бесклапотнасць адносна зместу здольна абярнуцца абыякавасцю чытача да самай вытанчанай формы.

— Мастацтва помслівае, — гаварыў ён.—Яно жорстка распраўляецца з тымі мастакамі, якія свядома ці несвядома здраджваюць яго асноўным законам—законам праўды і чалавечнасці.

І вось яго ўжо няма.

Як заўжды, сляпая і страшная ў сваім недарэчным выбары смерць вырвала яго з жыцця, і тут ніякія суцяшэнні не апраўдаюць ягонае адсутнасці сярод нас. Смуткуючы да глыбіні душы, мы, аднак, не можам нічога, апроч як на развітанне сказаць з жалобай і горыччу:

— Пухам табе зямля, дарагі Аляксандр Трыфанавіч!

**Васіль БЫКАЎ.**

Піліп ПЕСТРАК

# НЕАБХОДНАЯ РАЗМОВА



ДОБРА, што на старонках «Літаратуры і мастацтва» ідзе зараз вострая і прынцыповая размова пра стан і задачы літаратурнай крытыкі. Гэта размова — наспелая і неабходная. Яна падказана нам рашэннямі XXIV з'езда КПСС, яна вынікае з усяго нашага жыцця. Ад крытыкі шмат у чым залежыць ідэйна-мастацкі ўзровень літаратуры, яна заўсёды павінна быць у авангардзе літаратуры.

Я — за размову грунтоўную, адкрытую, сур'ёзную. Мне падабаецца, што ў дыскусіі ўсталяваўся менавіта такі тон. Без усякіх, як кажуць, акругленняў гавораць удзельнікі дыскусіі пра клопаты і хваробы крытыкі, імкнуцца трымаць у полі зроку агульна-літаратурныя праблемы. У дыскусіі (а гэта нячаста бывае) прыведзены факты рамесніцтва, халтуры і ў крытыцы, і ў літаратуры. Так і трэба — рашуча выяваць супраць праяў беспрынцыповасці, групаўшчыны, суб'ектывізму ў крытыцы. Трэба абстрэльваць і тую літаратуру, што вызначаецца нізкім ідэйна-мастацкім узроўнем.

Гаворачы пра нашу крытыку, я перш за ўсё маю на ўвазе яе самую аператыўную частку — рэцэнзіі ў перыядычным друку. Што казаць, былі сярод іх і цікавыя, змястоўныя крытычныя выступленні. Але колькі было і шэрых, выпадковых, мізэрных публікацый, якія пісаліся часам не з навукова-аб'ектыўных пазіцый, а з дробных, пазалітаратурных інтарэсаў. І трэба рашуча змагацца з праявамі суб'ектывізму, які б сабе ён ні быў — ці цукровы, ялейны (для адных), ці горкі (для другіх).

Гаворачы пра гэта, я маю на ўвазе, вядома, толькі асобныя артыкулы і рэцэнзіі. Прыклады такой суб'ектывісцкай крытыкі прыводзіліся ў дыскусіі. У літаратуразнаўстве, як мне ўяўляецца, справы сёння лепшыя: у многіх даследаваннях і манаграфіях пераважае навуковы падыход да твораў. (Маю на думцы працы калектыву работнікаў Інстытута літаратуры нашай Акадэміі навук).

Тым болей бывае часам дзіўна, калі аўтары сур'ёзных даследаванняў, паважаныя навукоўцы, выступаючы з рэцэнзіямі на новыя творы, пачынаюць таксама хварэць на суб'ектывізм. Тут ужо часам і не разбярэш, што рэцэнзенту падабаецца больш — характар і пасада пісьменніка ці сам твор як з'ява адметная і змястоўная.

Правільна гаворыць С. Андраюк у сваім артыкуле «Каб крытыка была крытыкай» («Літаратура і мастацтва», 24 верасня), што «літаратурнае, увогуле мастацкае пазнанне — пазнанне суб'ектыўнае, але заснаванае на аб'ектыўных законах». Але тут узнікае пытанне: а што, калі гэтае самае суб'ектыўнае пазнанне ў творах таго ці іншага пісьменніка супярэчыць аб'ектыўнаму зместу часу? Хіба не бывала так у некаторых выпадках і ў нашай літаратуры? Шкада, што пра гэта не сказана ў артыкуле С. Андраюка. Аўтар артыкула, мне падалося, спрашчае грамадскую сутнасць мастацкай творчасці. Асобныя яго выказванні выглядаюць даволі спрэчнымі. Вось прыклад.

«Сапраўдны пісьменнік і адлюстроўвае аб'ектыўны свет, і сцвярджае сябе ў гэтым свеце, сцвярджае сваю існасць, у пэўным сэнсе падпарадкоўваючы ёй жыццёвы матэрыял», — гаворыцца ў артыкуле.

Такое выказванне наяўна патрабуе дадатковага тлумачэння. Чаму? С. Андраюк вядзе гутарку аб тым, што нашы крытыкі часам ігнаруюць задуму пісьменніка, што яны, як кажа Андраюк, прад'яўляюць аўтару твора патрабаванні, не сумяшчальныя з творчай самастойнасцю, і ўспамінае пры гэтым творы Караткевіча і Брыля. Асабліва вылучае аўтар артыкула раман Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды». Бачыце, крытыкі Герцовіч і Карпаў папракалі пісьменніка «за грамадскую, сацыяльную пасіўнасць галоўнага героя кнігі Брыля «Птушкі і гнёзды» Алеся Руневіча, за «адсутнасць у галоўнага героя шырокага палітычнага погляду». І далей С. Андраюк піша: «Крытыкі нібы забываюць пісьменніка, не лічацца з тым, што ён хацеў паказаць, як гэта паказаў, які пафас яго таленту, урэшце, што дазваляе сам жанр паказаць».

Я — таксама за тое, каб крытыка ўлічвала і задуму пісьменніка і асаблівасці яго таленту. Без гэтага сапраўдную крытыку нельга і ўявіць. Але ніхто, мабыць, не дазваляе нам замоўчваць, апраўдваць недахопы, асабліва калі яны маюць дачыненне да сацыяльна-грамадскай функцыі ягоных твораў.

І калі мы ўжо ацэньваем раман Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды», то ўсё-такі мы не можам не думаць пра тое, што дзеянне рамана адбываецца ў адзін з вырашальных момантаў сусветнай гісторыі. Галоўны герой рамана Руневіч знаходзіцца ў фашысцкім палоне, з якога ўцякае. Ледзь не ўся Еўропа стогне ў фашысцкай няволі. Гітлераўцы вынішчаюць мільёны людзей. Ідзе змаганне — людзі не могуць і не хочуць змірыцца з фашысцкім ярмом. А што Руневіч? Ён — у баку ад змагання. І таму, на маю думку, С. Андраюк не мае рацыі, калі ўпікае крытыкаў Я. Герцовіча і У. Карпава, што яны «папракалі пісьменніка за грамадскую, сацыяльную пасіўнасць галоўнага героя Алеся Руневіча».

Выбар героя надзвычай важны для мастацкай задумы. Ад гэтага залежаць далягляды твора, шырыня і значнасць ахопу рэчаіснасці. С. Андраюк наракае на крытыкаў, што яны не патрапілі адгадаць, што хацеў сказаць пісьменнік, не адгадалі, які пафас яго таленту, урэшце не ўлічылі, «што дазваляе сам жанр паказаць». Мяне спыняе і гэта апошняя заўвага аўтара артыкула — пра магчымасці жанру. І тут хочацца запярэчыць крытыку. Што за жанр мае на ўвазе С. Андраюк, які чагосьці не дазваляе паказаць? Я, напрыклад, такога жанру не ведаю. Усе жанры паэзіі, прозы, драматургіі — прыдатныя для самага значнага зместу: у любым жанры, калі пісьменнік ужо выбраў яго, трэба гаварыць толькі на поўны голас, браць самае істотнае ў грамадскім, чалавечым жыцці.

У справаздачным дакладзе таварыша Брэжнева на XXIV з'ездзе КПСС адзначалася, што ў разважаннях аб літаратуры павінна праяўляцца ўважлівае стаўленне да творчых пошукаў, да індывідуальных здольнасцей, талентаў. «Мы — гаварыў Л. І. Брэжнеў, — за разнастайнасць і багацце форм і стыляў, якія выпрацоўваюцца на аснове метаду сацыялістычнага рэалізму». І далей: «Несумненна, поспехі савецкай літаратуры і мастацтва былі б больш значнымі, а недахопы выжываліся б хутчэй, калі б наша літаратурна-мастацкая крытыка больш актыўна праводзіла лінію партыі, выступала з большай прынцыповасцю, спалучаючы патрабавальнасць з тактам, з асцярожным стаўленнем да творцаў мастацкіх вартасцей».

Вось чаму патрэбна катэгарычнае тлумачэнне, у якім аспекце можа выражацца, як гаворыць С. Андраюк, «падпарадкаванне жыццёвага матэрыялу» таленту пісьменніка. Мне здаецца, што гэтая праблема, калі можна так назваць, вельмі важная. Бо, калі няма катэгарычнага тлумачэння гэтага пытання, застаецца фортачка адкрытай для таго «мастацкага» падпарадкавання, што адступае і ад нашых грамадзянскіх пазіцый. А мы з гэтым не можам пагадзіцца і ніколі не пагодзімся.

І таму перад крытыкай можна і трэба паставіць пытанне: ці павінна крытыка займацца даследаваннем сацыяльнага становішча грамадскіх з'яў і людзей? Я думаю, што павінна, бо без гэтага, без выразнага ўяўлення вызначальных тэндэнцый грамадскага жыцця, немагчыма аналізаваць творы літаратуры і мастацтва. Іменна гэтага сацыяльнага бачання ў нашай крытыцы яшчэ не заўсёды хапае, а без гэтага крытыка не зможа па-сапраўднаму выконваць свае задачы.

Хочацца коратка сказаць яшчэ аб адной з'яве — аб тым, як ставіцца наша крытыка да маладых талентаў, да тых, хто толькі ўваходзіць у літарату-

СЛОВА БЯРЭ ЧЫТАЧ

# У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКАМ

З вялікай увагай чытаем мы ўсе дыскусійныя матэрыялы, што друкуюцца на старонках штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» пад рубрыкай «Крытыка. Дзень сённяшні».

Нарэшце, так уцягнуліся ў размову, што захацелася і самім падзяліцца некаторымі ўражаннямі і меркаваннямі, выказаць свае пажаданні крытыцы і крытыкам.

Наша чытацкая пазіцыя акрэсліваецца нашым заняткам, нашай справай. Мы — настаўніцы, выкладзем мову і літаратуру. Безумоўна, мы можам дасягнуць поспеху ў сваёй справе толькі тады, калі здолеем прывіць сваім вучням любоў да літаратуры, калі навучым іх разбірацца ў ідэйна-мастацкай сутнасці твораў, калі прыахвоцім іх да ўдумлівага самастойнага чытання.

Кожны, хто мае дачыненне да школы, ведае, што з найбольшым поспехам славеснік можа працаваць тады, калі ён не толькі сочыць сам за сучаснай літаратурай, але і ўводзіць у яе, раіць, падказвае, «кантралюе» так званае пазакласнае чытанне.

У гэтай справе літаратурны крытык — найпершы саюзнік славесніку, як і школьнаму бібліятэкару. Мы заўсёды бярэм на прыкмету цікавыя і змястоўныя артыкулы ў «Литературной газете», у «Полымі», «Літаратуры і мастацтве», «Маладосці».

Заўважаецца, што вучні, рыхтуючыся да ўрокаў, чытацкіх канферэнцый, дакладаў, ахвотна звяртаюцца да самых новых крытычных публікацый. І гэта зразумела: манаграфіі і зборнікі артыкулаў з цягам часу старэюць, ды і сам аб'ём іх таксама «палохае» школьніка.

Апрача таго, перыёдыка даносіць дыханне сучаснасці ў літаратуры больш жыва і страсна.

Возьмем дыскусію аб крытыцы на старонках «ЛіМа». Яна пачалася (гэта адзначыў вельмі справядліва Аляксей Кулакоўскі ў артыкуле «Некалькі заўваг і меркаванняў», 10 снежня) змястоўным і нацэленым на самыя надзённыя праблемы літаратурнага жыцця артыкулам рэдакцыі і цікавымі артыкуламі Міколы Лобана і Якава Герцовіча.

А затым разгарнулася такая ажыўленая, цікавая і прынцыповая размова, якіх, здаецца, ужо даўно не было ў нашым рэспубліканскім друку.

Па-першае, уражвае сам дыяпазон размовы. Узнята многа пытанняў, што датычацца спраў крытыкі, яе праблем і клопатаў. Багата сказана і аб тым, чым жыве літаратура. Аляксей Кулакоўскі, паважаны празаік, мае рацыю, калі, разважаючы аб ходзе дыскусіі, выказвае пажаданне, каб больш было «канкрэтных фактаў, доказаў, прыкладаў з літаратурных твораў, з творчага вопыту пісьменнікаў, асабліва, калі гэты вопыт не зусім удалы». Добра, што артыкул А. Кулакоўскага не абмяжоўваецца пажаданнямі і дадае «канкрэтных фактаў».

У дачыненні да гэтага артыкула, цікавага, прадыктаванага добрым клопатам аб нашай крытыцы і літаратуры, вельмі важкага выхадамі на шырокія прасторы агульна-літаратурных праблем, ёсць толькі адно маленькае пярэчанне. Менавіта тых прыкладаў, калі творчы вопыт пісьменнікаў «не зусім удалы», мы ў артыкуле і не знаходзім. Больш таго, нам думаецца, А. Кулакоўскі па душэўнай шчодрасці пасляшаўся «абараніць» творчасць пісьменнікаў «сярэдняга ўзросту», палемізуючы з артыкулам В. Каваленкі, надрукаваным у «Полымі» (№ 11). Ці так ужо трэба абараняць пакаленне Пташнікава і Барадуліна ад крытыкі? Наколькі помніцца, пра большасць літаратараў гэтага пакалення, названых у артыкуле А. Кулакоўскага, пісалася ў станоўчым плане не менш, чым пра равеснікаў А. Кулакоўскага. Тым больш будзе, мабыць, дарэчы кожнае разважлівае слова крытыкі пра тое, што замінае творчаму росту гэтых пісьменнікаў.

У дыскусіі, што вельмі нам падабаецца, прыведзена багата прыкладаў літаратурнага жыцця. Яны актывізуюць думку, неяк набліжаюць да нас літаратуру. Прываблівае і форма артыкулаў — усе яны такія розныя па стылі, мове, па нейкім унутраным характары...

Неяк асабліва ўбачылася, наколькі складаная, цяжкая, выключная па літаратурна-грамадскіх функцыях праца літаратурнага крытыка. І добра, што ў дыскусійнай размове не аднойчы звярталася ўвага на працы лепшых крытыкаў, згадваліся іх імёны. Нам думаецца, пра крытыкаў варта расказваць больш і часцей. Чаму б, напрыклад, побач з артыкуламі крытыкаў не змяшчаць і кароткія даведкі пра іх? Пакуль што гэта зрэдку робіць толькі часопіс «Маладосць».

Крытыкі часам можа і не здагадваюцца, што за іх творчасцю таксама вельмі ўважліва сочаць аматары літаратуры. Таму, на жаль, многія з іх і не думаюць пра шырокага чытача, не дбаюць аб тым, каб голас іх быў чуцён вялікім чытацкім аўдыторыям. Рэдка выступаюць крытыкі і літаратуразнаўцы ў «Настаўніцкай газеце». Амаль не прыпамінаюцца выступленні крытыкаў-прафесіяналаў на старонках маладзёжных газет, даволі рэдка прыходзяць яны на радыё і тэлебачанне.

А што робяць нашы крытыкі непасрэдна для школы?

Некалькі гадоў назад выдавецтва «Народная асвета» выпусціла зборнік крытычных артыкулаў, адрасаваных школе, — «На высокай хвалі». Але больш такія зборнікі чамусьці не выпускаюцца.

Крытык А. Клышка зрабіў цудоўны дапаможнік — «Буквар». А хочацца мець адрасаваныя школьнікам розныя па змесце і форме кнігі для чытання, такія, скажам, як вельмі папулярная кніга «Рассказы о русских писателях».

Шкада, што няма ў нашай рэспубліцы завядзёнкі выпускаць крытычныя гадавікі—зборнікі лепшых літаратурна-крытычных артыкулаў і рэцэнзій года. Можа «Літаратура і мастацтва» стала б ініцыятарам такога выдання, прапанаваўшы аднаму з нашых выдавецтваў падборку надрукаваных у ёй матэрыялаў аб сучаснай беларускай літаратуры?

Вельмі важным у гаворцы аб крытыцы ўяўляецца нам той аспект размовы, які быў вынесены ў загаловак вельмі мэтанакіраванага і шчырага артыкула А. Вярцінскага: «Крытык — талент асаблівы, або: як быць з прынцыповасцю?». Сам артыкул вызначаецца прынцыповым і ўдумлівым падыходам да літаратуры, ён акцэнтуе тыя праблемы, што востра адчуваем і мы, радавыя чытачы. Сапраўды, часта губляешся, не ведаеш, што і думаць, калі бачыш, як у друку расхвальваецца тое, што табе не падабаецца, што не падабаецца многім чытачам. А разам з тым творы сапраўдныя, цікавыя не атрымліваюць належнай ацэнкі.

С. Букчын у артыкуле «Пра талент і прынцыповасць» (10 снежня) працягвае і развівае думкі А. Вярцінскага, прыводзіць трапныя прыклады крытычнай беспрынцыповасці і літаратурнага рамесніцтва. Аднак (можа гэта нам толькі падалося) С. Букчын дарэмна імітуе палеміку з А. Вярцінскім. Гаворыць ён сам, па сутнасці, тое ж, што і яго апанент, але ў такім тоне, як быццам ён недаацэньвае свайго папярэдніка.

Хочацца спадзявацца, што дыскусія аб крытыцы, якая вядзецца на старонках «ЛіМа» востра і цікава, яшчэ зніме і некаторыя палемічныя перакосы ў некаторых іншых артыкулах. Мы ўпэўнены: добрая размова прынясе карысць крытыкам, усім літаратарам і нам, чытачам.

Т. МАКЕЙЧЫК,
заслужаная настаўніца БССР;
Л. АНДРЭЕВА,
настаўніца.

ру. Дрэнна, калі крытыка не заўважае твораў пісьменніка, які шмат працуе ў літаратуры, але яшчэ горш — калі па-за ўвагай крытыкі застаюцца маладыя. Тут асабліва дарэчы будзе слова старэйшага пісьменніка аб працы маладога літаратара.

Я асабліва ганаруся, што быў першым рэцэнзентам таго самага зборніка баек Уладзіміра Корбана, з якім увайшоў у літаратуру сатырык, чыё імя набыло потым шырокую вядомасць. Мне давялося гэтак жа выступіць з рэцэнзіяй у часопісе «Беларусь» на першую кнігу апавяданняў Янкі Брыля. Калі выйшаў з друку першы зборнік вершаў Рыгора Барадуліна «Маладзік над стэпам», я першы, здаецца, адгукнуўся на гэту кніжку, назваўшы артыкул: «Дарога ў шырокі свет».

Я гэта гавару не для таго, каб выхваляцца. Барані, божа! Я гавару для таго, каб паставіць пытанне: трэба дапамагаць маладым талентам, нельга пакідаць іх без увагі. Маюцца на ўвазе, вядома, сапраўдныя таленты, а не графаманы.

Так, у нас багата прэтэнзій да крытыкі. Нам патрэбна, вельмі патрэбна чуйная, зычлівая, прынцыповая і строгая крытыка. Гэта крытыка павінна быць добра ўзброена марксісцка-ленінскай метадалогіяй, павінна быць прафесійна дасканалай, аператыўнай і глыбокай. Безумоўна, само сабой гэта не зробіцца. Крытыцы патрэбны людзі — адукаваныя, кваліфікаваныя, з марксісцка - ленінскім кругаглядам, сумленныя, адданыя душой нашым сацыялістычным перспектывам, узброеныя эстэтычным разуменнем жыцця, публіцыстычным пафасам.

А можа варта было б пры літаратурных факультэтах універсітэтаў, педінстытутаў увесці курс з ухілам на крытыку, або стварыць спецыяльныя курсы? Толькі пры наяўнасці добра падрыхтаваных, дасведчаных кадраў могуць быць ліквідаваны розныя — свядомыя і несвядомыя — пагрэшнасці, якія ламаччам леглі на шляху нашай літаратурна-мастацкай крытыкі. Гаворачы так, я не хачу сказаць, што ў нас няма здольных крытыкаў, людзей з запасам ведаў. Не, ёсць. Але іх нямнога і галоўнае — голас іх нярэдка гучыць прыглушана. Крытыка —нялёгкае мастацтва. Па меры развіцця нашага сацыялістычнага грамадства яе задачы і функцыі будуць яшчэ ўскладняцца, станавіцца труднейшымі. Таму—будзем дбаць пра яе больш, будзем змагацца за самыя спрыяльныя ўмовы яе развіцця. Вось гэта і ёсць тая мэта, пра якую так турбуецца зараз грамадскасць.

У анкеце рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва», між іншым, ёсць і такое пытанне: «Што, на вашу думку, мала асвятляецца і слаба асэнсоўваецца нашай крытыкай у сучасным літаратурным жыцці?»

Можна многа гаварыць на гэтую тэму. Кідаецца ў вочы — нашы крытыкі не намагаюцца арганічна спалучаць, аналізуючы той ці іншы твор, аўтарскія інтэнцыі са шляхамі сацыялістычнага будаўніцтва. Паўтараю — арганічна. У гэтым сэнсе часта яшчэ дзейнічае абабітая фраза. Гэта значыць — стандарт. Чаго варты той крытык, які не кранае сэрцавіны, у якога няма пачуцця маштабнасці нашых творчых дзён, нашага часу? Брак сацыяльнасці ў літаратурна-крытычным аналізе асабліва небяспечны і непажаданы. І добра, што некаторыя нашы крытыкі ўсё ж намагаюцца быць дакладнымі ў гэтым аналізе, а, значыць, добрасумленнымі.

Апошняе пытанне ў анкеце: «Крытык піша цікава... Як вы гэта сабе ўяўляеце?»

Калі гаворыцца «цікава» ў дачыненні да працы крытыка, то я ўспрымаю гэта насцярожана. Спадзяюся, што маецца на ўвазе не павярхоўная займальнасць. Для цікавасці можа пісаць і фельетаніст, ды яшчэ з графаманскай ухмылкай. Ацэньваць крытыка словам «цікава» можа, скажам, абывацельская пасрэднасць, якая далей свайго носа не бачыць, і галоўнае—не хоча бачыць. Для літаратурна-мастацкага крытыка, калі ён сапраўдны крытык, існуюць усталяваныя крытэрыі, якія выцякаюць з арсенала грамадскай і эстэтычнай думкі. Пра Бялінскага не гаварылі, што ён піша цікава. Не, яго называлі «неистовый Виссарион».

Літаратурна-мастацкі крытык — гэта зоркасць, вастрыня і маштабнасць думкі. І той, хто ўзброены такімі якасцямі, піша не для цікавасці. Ён піша для пошуку, пазнання ісціны, сэнсу, значыць — піша пафасна, горда, бліскуча.

Трэба пажадаць, каб велічныя перспектывы ў будаўніцтве камунізма, акрэсленыя XXIV з'ездам КПСС, сталі кіруючым стымулам ў нашым творчым мысленні, каб у творчасці ўсіх аўтараў літаратуры выяўляўся пафас мільённых працоўных мас у штодзённых подзвігах-дасягненнях па шляху будаўніцтва камунізма пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі.

---

НАД ЧЫМ ПРАЦУЕ...

# Алесь ЯСКЕВІЧ

Першыя артыкулы і рэцэнзіі, пад якімі стаяла прозвішча Алеся Яскевіча, паявіліся ў рэспубліканскім друку ў канцы 50-х гадоў. Неўзабаве стала ясна, што ў літаратуру прыйшоў цікавы крытык і ўдумлівы літаратуразнаўца. З кожным годам усё выразней акрэсліваліся такія рысы яго творчага аблічча, як самастойнасць думкі, шырыня і разнастайнасць інтарэсаў, здольнасць разважаць аб літаратуры смела, свабодна, праблемна, уменне глыбока пранікнуць у ідэйную сутнасць і эстэтычную прыроду мастацкіх твораў. Сёння слова маладога крытыка добра чуваць у нашай літаратуры — у яго свой падыход да з'яў жыцця і літаратуры, свая манера размовы аб іх, свой развіты арсенал сродкаў і метадаў мастацкага аналізу. На творчым рахунку крытыка — кнігі «Карані маладога дрэва» і «Ад слова да вобраза», багата цікавых і змястоўных публікацый ва ўсесаюзным і рэспубліканскім друку, што здабылі прызнанне і ўвагу чытачоў.

Сёлета імя крытыка амаль не сустракалася ў друку. Чаму? Не пісалася? — Не, гэта не так, — адказаў карэспандэнту «ЛіМа» Алесь Яскевіч.

— Быў заняты вялікай працай, якая ўжо амаль завершана. Умоўная назва яе: «Нараджэнне вобраза». Круцячыся ў пекле надзённых крытычных праблем, я адчуваў даўні сум па літаратурнай тэорыі. Без належнага заглыблення ў яе немагчыма быць сапраўдным крытыкам. Мяне асабліва вабіць даследаванне самых таямніц мастацкай з'явы—вобраза, таго, што з'яўляецца вызначальным у тонкай духоўнай матэрыі мастацтва.

«Падгледзець» унутраную структуру з'явы ўдаецца больш за ўсё тады, калі яна яшчэ ў працэсе ўтварэння. Як толькі ў ёй выкрышталізуюцца формы, ураўнаважыцца структура, з'ява «спяшаецца» схаваць, прытаіць белыя ніткі, швы, спаі, звязкі, не жадаючы выдаваць сваіх таямніц. Вось я і раблю ў новай працы спробу падгледзець «завязванне» вобразнай рэчыўнасці ля самых вытокаў, яшчэ пры выспяванні задумы, і прасачыць далейшае фарміраванне мастацкай структуры ў бясконца зменлівым стылявым акіяне, як рухомага адзінства формы і зместу, у працэсе афармлення апошняга. Стылявыя падыходы, калі выкарыстаць магчымасці стылістыкі па-сапраўднаму, дазваляюць назіраць працэс формаўтварэння на ўзроўні найтанчэйшай меры, гэтага амаль чарадзейнага мастацкага «ледзь-ледзь»... Хочацца ўлавіць, як у трапяткім дыханні мастацкай вобразнасці ажыццяўляецца галоўнае ў мастацтве — абагульняецца і асэнсоўваецца матэрыял жыцця, на поўную сілу раскрываецца творца, яго здольнасць рэалізаваць свае ідэйныя і інтэлектуальныя багацці на самым высокім узроўні мастацкасці...

— А што ў планах на бліжэйшы час?

— Хутка ў выдавецтве «Навука і тэхніка» выйдзе манаграфія «Шляхі беларускай савецкай прозы», напісаная ў сааўтарстве з М. Мушынскім і В. Каваленкам.

Мяркую неўзабаве скласці зборнік артыкулаў, які па сваёй праблематыцы стане працягам маёй кнігі «Карані маладога дрэва».

Ёсць жаданне вярнуцца зноў да колішняй цікавасці — пачатковых стыляў беларускай літаратуры. Даўно просяцца на паперу думкі аб беларускім мастацтве і архітэктуры, мару, калі стане ўмельства, напісаць пра нашых дзівосных старых жывапісцаў — Ф. Рушчыца, С. Жукоўскага і В. Бялыніцкага-Бірулю...

---



Аляксандр ФАДЗЕЕЎ.

Антон БЯЛЕВІЧ

# ДРУГ І ДАРАДЧЫК

## ДА 70-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ А. ФАДЗЕЕВА

**У суровыя, горкія дні апошняй вайны мне пашанцавала часта страчацца, шчыра здружыцца з такімі славутымі, вялікімі рускімі паэтамі, як Аляксандр Твардоўскі, Мікалай Асееў, Аляксандр Пракоф'еў. У таварыскіх гутарках яны часта ўспаміналі пра Аляксандра Фадзеева. Асабліва шчыра, з душэўнай цеплынёй і сардэчнасцю пра Фадзеева гаварыў Аляксандр Твардоўскі. Ён лічыў яго і першым, лепшым другам сваім, і лепшым пісьменнікам сучаснасці.**

Творы Аляксандра Фадзеева, вядома, мною ўжо тады былі прачытаны, яны мне вельмі спадабаліся сваёю непаўторнай арыгінальнасцю і яркасцю, глыбінёю думак і тонкасцю, дакладнасцю ведання народнага жыцця, непарыўнай сувяззю з гэтым жыццём, з яго радасцямі і смуткаваннямі, з яго святамі і цяжкімі буднямі. А самога аўтара гэтых цудоўных твораў, якія авеяны рамантыкай, напоўнены інтэрнацыянальным гуманізмам, пафасам барацьбы і стваральнай працы, я яшчэ ні разу не бачыў, не страчаўся, не гаварыў з ім ў тыя цяжкія дні вайны.

Упершыню сустрэўся я з Аляксандрам Фадзеевым, калі ўжо адгрукатала, адгаласіла лютая вайна. У той час Аляксандр Пракоф'еў пераклаў маю паэму «Сям'я» і надрукаваў яе ў ленінградскім часопісе «Звезда». Мікалай Ціханаў, які быў сакратаром Саюза пісьменнікаў СССР, запатрабаваў чамусьці ў Пракоф'ева дзесяць экземпляраў часопіса з маёй паэмай. Пракоф'еў з Ленінграда прыехаў у Маскву, зайшоў да мяне (тады яшчэ я часова жыў у Маскве).

— Апранайся, пойдзем у саюз, — сказаў Аляксандр Андрэевіч.—Панясём тваю паэму Ціханаву.

Мы пайшлі, а Мікалая Ціханава чамусьці не было ў саюзе. У прасторным, доўгім пакоі за сталом сядзеў яснавокі, русявы, ружавашчокі, вельмі прываблівы, прыгожы, чыста паголены чалавек. Гэта і быў Аляксандр Фадзееў. Мы пазнаёміліся. Ён нейкі вельмі ўтульны, шчыры, з вясёлымі іскрынкамі ў разумных вачах. У яго трошку сіпаваты, з мяккай інтанацыяй голас. Мяне здзівіла такое: у безрукаўцы, без гальштука, без пінжака сядзіць сам генсек! І яму я пазайздросціў. Мне сціскае горла гальштук, у пінжаку мне горача, а яму не душна, лёгка ў белай безрукаўцы. І гаварыць з ім было лёгка, цікава. Даведаўшыся, што мне давялося пабываць у партызанскіх атрадах на Віцебшчыне, ён пачаў распытваць пра гераічнага Міная Піліпавіча Шмырова. Ён ужо чытаў пякучую, балючую баладу Аркадзя Куляшова пра чатырох заложнікаў —дзяцей бацькі Міная. Прыгадаўшы гэту баладу, ён адразу неяк спахмурнеў, прыціх, задумаўся. Было добра відаць, як хмурынка тугі набегла на ягоныя ясныя вочы. Ён сваёй чулай душою, добрым сэрцам пранік у тую страшную трагедыю бацькі Міная, у пакуты і гора беларускага народа, у яго зруйнаваныя, спаленыя фашыстамі гарады і вёскі. З душэўнай цеплынёй і захапленнем ён гаварыў пра гераічную барацьбу, пра мужнасць беларускіх партызан, пра вялікую адданасць беларускага народа Радзіме, партыі.

Загаварыўшы пра гэта, Аляксандр Фадзееў прыгадаў паэму Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады».

Другі раз сустрэўся я з Аляксандрам Фадзеевым у тым цягніку, які летам вёз мяне з Масквы ў Мінск на другі з'езд пісьменнікаў нашай рэспублікі.

Заходжу ў вагон-рэстаран падсілкавацца, а там за столікам сядзяць, абедаюць Якуб Колас і Аляксандр Фадзееў. Прывітаўшыся з імі, мяркуюся прысесці за суседнім столікам, а дзядзька Якуб кажа:

— Ідзі сюды, Антось. Прыладкоўвайся за гэтым столікам. Садзіся вось тут,—паказвае на крэсла.— Можа, вып'еш чарку?—і налівае мне чарку віна. Я папрасіў афіцыянтку прынесці трошкі мацнейшага напітку. Фадзееў пацяплеўшымі, павесялеўшымі вачыма паглядзеў на мяне...

Расказваў Колас яму пра тых празаікаў, паэтаў, якія загінулі ў дні ліхалецця, на вайне, якія ўжо не прыйдуць на з'езд беларускіх пісьменнікаў. Некаторых тых празаікаў і паэтаў, якія ў глухіх магілах, добра ведаў і Аляксандр Фадзееў. Было відаць, як смуткуе глыбока ён, перажывае смерць знаёмых літаратараў. Асабліва балюча перажываў ён трагічную смерць Янкі Купалы, з якім часта сустракаўся, з якім быў звязаны шчырай, моцнай дружбаю. З глыбокай пашанай, з нейкім асаблівым замілаваннем гаварыў Фадзееў пра вялікага песняра народнага жыцця. Купала яму ўяўляўся то арлом, які з высокай скалы пазірае на сонца, то штурманам далёкага плавання, які магутны карабель паэзіі вядзе праз буры і штормы, праз навальніцы і цяжкія нягоды, то крышталёвай жывой крыніцаю, з якое людзі чэрпаюць натхненне і сілу. Ягоны даўні, верны друг Аляксандр Твардоўскі ў таварыскай гутарцы прызнаваўся, што і ён, Твардоўскі, адшукаў сцежачку да крынічнай чысціні, да жывой ракі купалаўскай паэзіі. Таму і ў творах Твардоўскага шматгалоссе навакольнай прыроды, жывыя чалавечыя інтанацыі, глыбінныя плыні народнага жыцця...

Аляксандр Фадзееў быў вельмі ўсцешаны тым, што ў Беларусі ёсць сапраўдная, народная школа высокага літаратурнага майстэрства, што маладым беларускім пісьменнікам ёсць у каго павучыцца. Ён распытваў пра маладых літаратараў, цікавіўся іх творчасцю. Якуб Колас называў імёны, прозвішчы тады яшчэ малавядомых, але здольных, таленавітых празаікаў, паэтаў, драматургаў, якія ўжо цяпер сталі сапраўднымі мастакамі слова, парадавалі народ і Бацькаўшчыну добрымі і выдатнымі творамі мастацкай літаратуры...

Мне невядома, дзе страчаўся, дзе пазнаёміўся Фадзееў з Піменам Панчанкам. з ягонымі вершамі і паэмамі, але, калі пачаў ён гаварыць пра Панчанку, дык я зразумеў. адчуў: паважае, любіць ён нашага таленавітага беларускага паэта.

Многіх нашых літаратараў любіў, паважаў ён за іх шчодрыя душы, за іх добрыя творы. Гэта глыбокая пашана, гарачая любоў былі выказаны і ў яго яркай, шчырай прамове на адной нарадзе беларускіх пісьменнікаў. І цяпер, у жывой яве добра бачу перапоўненую залу... Падышоў ён да трыбуны. Стройны, высокі, вясёлы, трошку пасівелы. У зале цішыня. Нібыта жывая, прамяністая крынічанька, пацякла, лёгка паплыла ягоная прамова. Перад ім на трыбуне ляжала нейкая паперка, але — прамоўца не заглядаў у тую цыдульку. Ён казаў дакладныя, натхнёныя словы, а яны хапалі кожнага за душу, акрылялі і заклікалі на добрыя, карысныя справы, на пошукі новых, ясных дарог у творчасці.

Гэта быў прамоўца!

Гэта быў разумны, шчыры друг беларускіх пісьменнікаў, нашага народа!

Цяпер ужо многім нашым пісьменнікам вядома, як сваімі разумнымі, шчырымі парадамі дапамагаў Аляксандр Фадзееў павысіць майстэрства, ярчэй намаляваць вобразы, даць жывыя малюнкі жыцця і барацьбы ў рамане «Мінскі напрамак» Івана Мележа. І таленавіты наш празаік вельмі ўдзячны свайму мудраму настаўніку.

Удзячны яму і наш старэйшы празаік і паэт Піліп Пестрак. І яго раман «Сустрэнемся на барыкадах» прачытаў Аляксандр Фадзееў. І не толькі ўважліва прачытаў, але зрабіў поўны, падрабязны разгляд рамана, паказаў яго высокія вартасці, дасягненні, падкрэсліўшы паасобныя недахопы ў творы. Ужо будучы хворым, Фадзееў напісаў сардэчны ліст-параду Пестраку.

Як і Максім Горкі, Аляксандр Фадзееў стаяў каля штурвала савецкай літаратуры, даваў ёй патрэбныя, ясныя накірункі, асвятляў ёй шляхі да глыбокай народнасці, да высокай партыйнасці, да праўдзівага адлюстравання народнага жыцця, нашай эпохі.

Так жыў і працаваў наш верны друг, разумны дарадчык, вялікі пісьменнік сучаснасці. Як некалі яму Купала, ён — сам уяўляецца мне то арлом, які з высокай скалы пазірае на сонца, то штурманам далёкага плавання, які магутны карабель літаратуры вядзе праз буры і перуновыя навальніцы да яснага берагу, да поўнага хараства жыцця пад небам Бацькаўшчыны.



На здымку (справа налева) — Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, Міхась Калачынскі і балгарскі паэт Дзімітр Методзіеў (1959 год).

Сяргей ГРАХОЎСКІ

# УЛАДЗІСЛАВА ФРАНЦАЎНА, КУПАЛІХА, ЦЁЦЯ ЎЛАДЗЯ

*ДА 80-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ*

НЯПРОСТА і нялёгка прайсці жыццё побач з паэтам, быць найбліжэйшым другам, жонкаю, першым чытачом, дарадцам і не абы якога паэта, а вялікага Купалы.

Шчырая і шчодрая на ўвагу, чуйная да паэтычнага слова, да людскіх радасцей і засмучэнняў, цёця Уладзя валодала вышэйшым талентам дабраты.

Цёця Уладзя.

Ёй так пасавала гэтае імя. Ласкавае, простае і свойскае.

Так яе звалі пры жыцці ў вочы і за вочы, так завуць цяпер усе, хто ведаў, паважаў, і тыя, хто хоць раз сустракаўся з ёю.

Відаць, для маладога Купалы пры першых сустрэчах не толькі «дзяўчынаю кветкай-лілеяй, вольнаю птушкай сумнай зямліцы» была Уладзіслава Станкевічанка. Аднадумцам, паплечнікам у агульнай справе і барацьбе, надзейным сябрам, што разумее збалелую неўтаймоўную душу паэта, спадарожніцай на ўсё жыццё стала Уладзіслава Францаўна.

Не можа быць сумнення, што калі б яна была з Іванам Дамінікавічам у той трагічны чэрвеньскі дзень 1942 года, гэты дзень не стаў бы апошняю датаю ў жыцці паэта. Яна ўмела берагчы людзей. Асабліва Купалу.

Цёця Уладзя рабіла ўсё, каб яму добра думалася, плённа працавалася, цікава і хораша жылося. Яна любіла і паважала таго, каго любіў і паважаў Купала, яна сваёй дабратой дапаўняла Купалаву дабрату і ўвагу да людзей.

Купалаў дом на Кастрычніцкай вуліцы заўсёды быў домам адкрытых дзвярэй. Туды ішлі за парадай, ішлі з радасцямі і клопатамі, ішлі сябры, каб адагрэць душу Купалавым святлом.

Усіх сустракала ласкавая, увішная і шчодрая на добрае слова і пачастунак гаспадыня. Калі госць затрымліваўся, і ўжо не хадзілі трамваі, яго клапатліва ўкладалі нанач. Самая маленькая гасцінная хата заўсёды бывае прасторнай.

Літаратурныя пачаткоўцы ў 30-я гады звычайна перабіваліся ад стыпендыі да стыпендыі. Абедалі ў сталоўцы Дома пісьменнікаў напавер, па «чорным спісе». Гэта ведалі Купала і цёця Уладзя.

Бывала, слухае, слухае дзядзька Янка вершы. Адны хваліць, другія бязлітасна крытыкуе. Потым скажа:

— Аднымі песнямі і салавей сыт не бывае. Хадзем, хлопчыкі, лепш паабедаем,— і вядзе ў сталоўку.

А гаваркая, заўсёды вясёлая цёця Уладзя збярэ «безграшоўцаў» і давай хваліць новы фільм, што ідзе ў «Чырвонай зорцы». Прывядзе ў кінатэатр, купіць усім білеты.

— Вы ўжо, хлопчыкі, тут самі. Каласок прыйдзе ў шахматы гуляць. Трэба ж іх вячэраю пакарміць.

Уладзіслава Францаўна бывала на ўсіх вечарах у Доме пісьменнікаў. Усіх яна ведала. Ведала, як хто жыве, у каго хварэе дзіця, каму якога доктара нараіць, або дзе напытаць халасцяку пакойчык. Амаль усе тады жылі ў прыватных кватэрах, а часта ў закутках, зашаляваных пабеленымі дошкамі, з дзвярыма, запнутымі паркалёвымі фіранкамі.

Было тады Уладзіславе Францаўне не болей як сорак гадоў, а яна, нібы клапатлівая маці, хадзіла адведваць сям'ю Сымона Баранавых, Уладзіміра Хадыкі, а то ездзіла ў Козырава да бацькоў Валерыя Маракова.

Вясною 1935 года ўся рэспубліка шырока адзначала 30-годдзе творчай дзейнасці Янкі Купалы. За некалькі дзён да ўрачыстых вечароў Іван Дамінікавіч запрасіў да сябе бліжэйшых сяброў. Я тады працаваў у Радыёкамітэце, і нам з кампазітарам Ісакам Любанам даручылі правесці трансляцыю гэтага, уласна кажучы, сямейнага вечара. Ніякіх магнітафонаў тады, вядома, не было. Усё, што гаварылася, адразу ішло ў эфір. Мы памаглі радыётэхніку прыцягнуць апаратуру і з'явіліся задоўга да пачатку вечара. Пасярод стала паставілі мікрафон, праверылі гучанне. Гаваркі і свойскі ў любых абставінах Любан адразу сябе адчуў, як дома. Я ж з дзяцінства маліўся на Купалу і баяўся вытыркнуцца, зрабіць лішні крок.

Уся скаванасць прайшла, як толькі цёця Уладзя пачала нас частаваць нейкаю незвычайнаю вяндлінаю і хрустамі.

— Вы ж ужо нацягаліся, хлопчыкі, ешце, не стыдайцеся. Па-а-куль тое будзе.

Іван Дамінікавіч запрасіў нас у кабінет, паказваў рэдкія кніжкі, аўтографы Горкага, Брусава, Тычыны, пытаўся ў Любана, ці ведае ён купальскія, жніўныя і вясельныя песні. «Вось у каго трэба вучыцца меладычнасці», — казаў ён і ўспамінаў фальклорныя шэдэўры.

Гасцей сустракалі ўважлівыя і далікатныя гаспадар і гаспадыня. Жанчынам Купала дапамагаў зняць паліто, многім цалаваў ручку. У той час такое далікацтва здавалася незвычайным і дзіўным. Але калі так трымаўся Купала, значыць — правільна, значыць, так трэба. Для кожнага госця ў гаспадароў знаходзілася вясёлае, шчырае слова, дасціпны жарт, зацікаўленае пытанне пра яго блізкіх.

Увішная гаспадыня радавалася кожнаму новаму чалавеку.

— Дарагія госцейкі, сядайце, дзе хто хоча, хто з кім хоча. А каля Янкі пасаджу толькі мужчын, каб дзяўчаты не вельмі спакушалі,— весела жартавала ўзрушаная, расчырванелая Уладзіслава Францаўна. І сапраўды, па правую руку юбіляра пасадзіла сакратара ЦВК Максіма Архіпавіча Ляўкова, па левую — акадэміка Сямёна Якаўлевіча Вальфсона. І тут быў досціп цёці Уладзі.

Гаварылі кароткія прамовы, пажаданні юбіляру і гаспадыні, спявалі песні, Вольга Уладзіміраўна Галіна натхнёна чытала: «Села пад пушчаю восень, вочы ўтаропіўшы ўдаль» і «Сыходзіш вёска з яснай явы». Расчулены паэт выйшаў з-за стала і шчыра дзякаваў артыстцы.

Уся гэтая непасрэдная, натуральная, вясёлая і дасціпная бяседа з Купалавай хаты ішла ў эфір. Уяўляю, як слухалі тую перадачу ў самых далёкіх кутках Беларусі! Падобных перадач, здаецца, болей не было. Як ні дамагаюцца цяпер радыёрэжысёры натуральнасці і непасрэднасці інтанацый,— так не выходзіць.

Уладзіслава Францаўна часта сустракалася мне на Савецкай вуліцы. Яна заўсёды некуды спяшалася, але ніколі не абмяжоўвалася таропкім кіўком галавы: хоць на хвіліну спыніцца, пагаворыць, распытае, як жывеш. У часопісе «Беларусь калгасная» надрукавалі Купалавы вершы «Ударніку» і «Заўсёды наперад», а ў канцы нумара ўціснулі і мой вершык. Неяк сустрэла цёця Уладзя і кажа:

— Чыталі, чыталі, а як жа. Увогуле нішто. Але навошта так ламаць радкі? Пакуль дачытаеш, язык зламаць можна. І нейкую сінь з каўша мядзведзіцы выдумаў. Працей пісаць трэба. Як у народнай песні.

Я чырванеў, спрабаваў апраўдацца, спаслаўся на «сучасную» форму.

— Усё гэта глупства, хлопча, Галоўнае, каб гэта і вось гэта было, — яна дакранулася да сэрца і ілба, развіталася і некуды заспяшалася зноў. А ў мяне гуло ўвушшу: «Чыталі. Чыталі». Выходзіць не адна. Значыць, гэта думка і Янкі Купалы. Зрабілася горача.

Новыя творы часцей за ўсё Купала друкаваў у «Звяздзе».

Калі ў газеце з'явіліся ляўкоўскія вершы, я ўбачыў, што цёця Уладзя ў кіёску купляе цэлы пачак «Звязды».

— Трэба адаслаць у калгас, можа не ўсе выпісваюць. Няхай пачытаюць, што пра іх Янка напісаў.

Яна адсылала пачкі кніжак, часопісаў, газет пісьменнікам, настаўнікам, незнаёмым чытачам, якія шукалі Купалавых твораў.

Не ўсе тады ведалі, што Уладзіслава Францаўна працуе метадыстам-педагогам Палаца піянераў і ў рэдакцыі радыёперадач для дзяцей, што яна апрацоўвае народныя казкі, складае кніжкі для дашкольнікаў. На ўсё яе хапала, скрозь яна паспявала.

...Адразу пасля вызвалення Беларусі Уладзіслава Францаўна ўзялася ствараць музей. Музей з энтузіязму. Бо не асталося ні рукапісаў, ні кніг, ні рэчаў вялікага паэта. Па старонцы, па каліву настойліва і неадступна збірала яна ўсё, звязанае з творчасцю і лёсам паэта. Шукала ў архівах і музеях, у знаёмых і незнаёмых асоб, у сяброў з усіх братніх рэспублік. Не было чалавека, які б не адгукнуўся, хто б не дапамог.

Уладзіслава Францаўна стварыла музей. Ён стаў яе галоўным клопатам, сэнсам жыцця. Не таму, што Іван Дамінікавіч быў ёй бязмежна дарагі і блізкі; таму, што ён быў Купала — тытан паэзіі, волат духу. Яна, відаць, раней і глыбей за многіх іншых разумела, што значыць Купала для Беларусі, для нашай культуры, для савецкай паэзіі. І збірала ўсё каштоўнае, ездзіла па Купалавых сцежках, каб не пазарасталі, каб не забыліся ніколі.

Пасля многіх-многіх гадоў я выпадкова ўгледзеў цёцю Уладзю на вуліцы яшчэ разбуранага Мінска. Падумалася спачатку, што не пазнае ці не захоча пазнаць. Як мне потым было сорамна, што мог такое падумаць. З такой увагай, з такім спачуваннем і жаданнем памагчы можа сустрэць толькі вельмі блізкі чалавек.

Двойчы на крутых паваротах майго жыцця добрым геніем з'яўлялася цёця Уладзя. Я не шукаў яе. Сам лёс вёў ёй насустрач.

Купалаўскія дабрата і ўвага пазнаваліся ў кожным яе ўчынку, у кожным слове, у адносінах да самага непрыкметнага чалавека. Таму па праву яе звалі Купаліхай.

Ніколі не забудуцца паездкі з цёцяй Уладзяй у Гродню на ўрачысты акт прысваення педінстытуту імя Янкі Купалы, у Вязынку — да святой Купалавай калыскі, у Радашковічы і ў Маладзечна.

Скрозь яна была дасціпнаю, вясёлаю, уважліваю да сваіх спадарожнікаў.

Галоўным клопатам Уладзіславы Францаўны ў апошнія гады было будаўніцтва музея, беганіна па розных установах, міністэрствах і калегіях. Калі нешта не ўдавалася, яна не крыўдавала: ведала — людзі яшчэ туляцца ў бараках, студэнты займаюцца ў падвалах, вокны заводаў яшчэ забіты лістамі фанеры. А як яна радавалася, калі ўжо ў гатовым музеі размяшчалася экспазіцыя, як яна марыла пра адкрыццё Купалавага дома.

І не дачакалася. Спяшалася, не шанавала сябе, і ўпала нахаду, як падбітая ластаўка. Але заўсёды жыве ў памяці і сэрцах усіх, хто хоць раз сустракаўся з Уладзіславай Францаўнай, Купаліхай, мілай цёцяй Уладзяй. Яна будзе заўсёды жыць у Купалавай песні, у яго доме, у сэрцах тых, каму так шчодра дарыла дабро, увагу і ласку.

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ АРХІТЭКТАРАЎ

**ВАСІЛЕВІЧ Сцяпан Усцінавіч.** Нарадзіўся ў 1922 г. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Старшы навуковы супрацоўнік у Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута горадабудаўніцтва. Асноўныя работы — па тэорыі горадабудаўніцтва, гісторыі архітэктуры, удзел у распрацоўцы праектаў планіроўкі і забудовы вуліцы Гагарына ў Барысаве і цэнтральнага раёна Віцебска.

**ВІЛЬЧКО Людміла Аляксандраўна.** Нарадзілася ў 1935 г. Скончыла Уральскі політэхнічны інстытут. Галоўны архітэктар праектаў у Гродзенскім філіяле інстытута Белдзяржпраект. Асноўныя работы — удзел у распрацоўцы праектаў машынна-вылічальнай станцыі ў Гродне, гасцініцы з рэстаранам у Мастах, дзевяціпавярховага жылога дома з аддзяленнем будаўнічага банка ў Гродне.

**ГАРДЗЕЕНКА Мікалай Цітавіч.** Нарадзіўся ў 1938 г. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Старшы архітэктар, кіраўнік групы ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута горадабудаўніцтва. Асноўныя работы — распрацоўка дэталёвай планіроўкі цэнтраў Магілёва, Мазыра, генеральнага плана Акадэмгарадка ў Мінску, эскіза забудовы раёна Рылаўшчына і Цэнтральнай плошчы сталіцы рэспублікі.

**ГРЫГАРЫШЫНА Валянціна Іванаўна.** Нарадзілася ў 1942 г. Скончыла Беларускі тэатральна - мастацкі інстытут. Старшы архітэктар у інстытуце Белгіпрагандаль. Асноўныя работы — распрацоўка інтэр'ераў буйных магазінаў і прадпрыемстваў грамадскага харчавання ў Мінску, Брэсце, Бранску.

**ДВОРЫНА - КЛЯНОЎСКАЯ Таіса Фёдараўна.** Нарадзілася ў 1937 г. Скончыла Беларускі політэхнічны інстытут. Старшы архітэктар у інстытуце Мінскпраект. Асноўныя работы — распрацоўка праектаў студэнцкага гарадка БПІ, дзевяціпавярховых жылых дамоў па вуліцы Усходняй, 162-кватэрных дзевяціпавярховых жылых дамоў у раёне Чыжоўка-5, 12-павярховага інтэрната па вуліцы Б. Хмяльніцкага.

**КАШЫРЫН Валянцін Мікалаевіч.** Нарадзіўся ў 1937 г. Скончыў Белару-

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

— НАВОШТА чалавек выпісвае газеты? — спытаў я аднаго разу паштальёнку, калі яна падвечар апускала ў маю скрынку ранішнія газеты.

Дзяўчына глянула на мяне спадылба:

— Каб чытаць або пры патрэбе — селядца загарнуць...

Не ведаю як хто, а я не магу пачаць свой працоўны дзень, калі раніцай не прагледжу газет. Гэта стала такой жа арганічнай патрэбай, як снеданне. Назіраю, што такіх, як я — шмат.

Ранкам асабліва бойка гандлююць газетныя кіёскі. Людзі, спяшаючыся на працу, прыхопліваюць на дарогу газеты, часопісы. Праглядаюць іх у тралейбусах, трамваях, аўтобусах. Часта тут жа дзеляцца важнымі весткамі, якія толькі што прачыталі.

Гадоў дзесяць назад у нашым 29-м паштовым аддзяленні паштальёнкай працавала Ліля Кучаравая. Тады не было яшчэ паштовых скрынак у пад'ездах, і паштальёнкі ўзнімаліся на ўсе паверхі, каб даставіць газеты, пісьмы. Я не ведаў выпадку, каб Ліля калі-небудзь спазнілася з газетамі. Найчасцей яна іх прыносіла так рана, што я здзіўляўся, калі гэты чалавек спіць. Бывала яшчэ а сёмай гадзіне раніцы чую, як у скрынку на тым баку дзвярэй яна кладзе газеты і часопісы.

— Што вы, Ліля, так рана? — спытаю іншы раз.

— Наша праца такая, што трэба людзям газеты зранку прынесці.

Ні разу Ліля не згубіла ці не даставіла якога-небудзь нумара. У нашым

# ПАКУЛЬ ІДЗЕ РАМОНТ...

Другі месяц ідзе рамонт раённай бібліятэкі. Другі месяц чытачы не могуць прачытаць свежую газету або часопіс.

Можна было б часова размясціць чытальню ў адным з пакояў раённага Дома культуры, але гэтым пытаннем не цікавіцца ні савет бібліятэкі, ні раённы аддзел культуры.

**К. САНЬКО,**
чытач.

г. п. Ганцавічы
Брэсцкай вобл.

Надрукавана ў «Маладосці»

# ТВОР НАВУКОВЫ І—МАСТАЦКІ

НЕКАЛІ Ф. Дастаеўскі ў «Дзённіку пісьменніка» заўважыў, што **«...не толькі, каб ствараць і пісаць** мастацкія кнігі, **але і каб толькі заўважыць факт, трэба таксама** свайго чыну **мастака».** Чытаючы аповесць маладога гісторыка Уладзіміра Якутава «Агонія» (часопіс «Маладосць», № 5), лёгка пераконваешся, што аўтар не толькі разумее факт, як вучоны, але і імкнецца ўбачыць яго як мастак.

Сапраўды вядомыя падзеі 1919 года пададзены аўтарам так уражліва, што даўняя паўвекавая гісторыя як бы ажыла, загаварыла сама. Загаварыла мовай вобраза, можа яшчэ не заўсёды народжанага самастойна, але запамінальнага.

«Стракапытаў быў раз'юшаны. Не разбіраючы ні старшынства, ні рангу, ён крычаў на ўсіх. Нават не верылася, што ў гэтым франтавым афіцэры, прызначаным галоўным інтэндантам палка, столькі злосці і хамства». Лапідарныя фразы, без лішніх упрыгожанняў— толькі інфармацыя. Але інфармацыя такая, што мы і бачым вонкавы выгляд афіцэра, і чуем яго, і ўяўляем асноўныя рысы, што вызначаюць яго характар, і ведаем яго пасаду. Не горш, чым у іншага прафесійнага пісьменніка, які ўвесь свой «прафесіяналізм» бачыць у тэхніцы маніпуляцый са словамі.

Штабс-капітан Стракапытаў, наняўшыся начхозам чырвонаармейскага палка, сустракаецца з аднадумцамі, былымі царскімі палкоўнікамі, каб выканаць чорную місію — дапамагчы саюзнікам белых, інтэрвентам шляхам стварэння ў прыфрантавой паласе, на Беларусі, крытычнай для бальшавікоў сітуацыі. Камбрыгу Ільінскаму і камісару Сундукову ў 2-й Тульскай брыгадзе, якая кіруецца ў раён Гомеля, даводзіцца не соладка, калі за іх спіной пяць афіцэраў робяць усё, каб дэзарганізаваць шэрагі чырвонаармейцаў («пяць прысылаюць, а дзесяць уцякае»).

А ў Гомелі тым часам надыходзіць доўгачаканы дзень вызвалення ад кайзераўскага войска, збіраецца камітэт РКП(б), каб вырашыць неадкладныя пытанні—пусціць фабрыкі і заводы, зберагчы народную маёмасць, накарміць горад, адкрыць школы і бальніцы.

Вызваленне прыйшло пад канец васемнаццатага, а на пачатку дзевятнаццатага зноў падняла галаву контррэвалюцыя. Аўтару аповесці «Агонія» ўдалося перадаць усю складанасць абставін векапомных дзён, калі вырашаўся лёс маладой Савецкай Беларусі, вырашаўся ў гарачых бітвах з адкрытым ворагам, а часцей з рознымі патаемнымі змовамі і здрадлівымі захадамі выкінутага за бар'ер гісторыі царскага атрэп'я.

Контррэвалюцыйны мяцеж, вынікам якога стаў разгром ваеннарэвалюцыйнага штаба камуністаў, што асталяваўся ў гасцініцы «Савой»,—гэта кульмінацыйны пункт аповесці. І можа тут якраз варта было аўтару не паскупіцца на мастацкае разняволенне факта, які так выразна падсумаван у прыведзенай цытаце з успамінаў Міхаіла Хатаевіча, члена Гомельскага бюро РКП(б): «яны пераацанілі сваё пачуццё адказнасці за жыццё сваіх таварышаў, кінуліся ў рамантычны гераізм і, ахвяруючы сабой, рашылі выратаваць жыццё астатніх. Тут меў месца ўзвышаны гераізм...»

Яны—гэта гомельскія бальшавікі, што складалі ваенна-рэвалюцыйны штаб: Сцяпан Камісараў, Ян Ланге, Мікалай Білецкі, Якаў Фрыд. Яны не праяўлены аўтарам да той ступені, калі чалавек запамінаешча не адным прозвішчам, але перш-наперш сваёй індывідуальнай сутнасцю. Іх паводзіны, ацэненыя як «узвышаны гераізм», не прасочаны псіхалагічна.

Рэчаіснасць дзевятнаццатага года, узноўленая ў дакументах, якія складаюць трывалы грунт аповесці, павінна была б загаварыць сваёй мовай. Яна гаворыць самастойна ў шмат якіх раздзелах, але не-не, ды і збіваецца на звычайную інфармацыю, напісаную па-газетнаму аднастайна.

Уладзімір Якутаў валодае тым узлётам думкі і грамадзянскага запалу, калі, памножыўшы іх на дакладнасць факта, можна ступіць на дарогу мастацкага сінтэзу, што толькі і можа забяспечыць твору цэласнасць. Такімі выглядаюць раздзелы, у якіх паказана спачатку разгубленасць мяцежнікаў перад небяспекай разгрому, а пасля і адчай, сапраўдная агонія, калі смерць—палітычная і фізічная— ужо неадступная, і вораг ідзе на апошняе: чыніць расправу з тымі, каго ўдалося паланіць.

Расправа стракапытаўцаў з гомельскімі бальшавікамі паказана з належнай ступенню рэалістычнасці, якая сведчыць пра тое, што аўтар валодае сінтэзам думкі і вобраза.

«Білецкі абдымае гэтага шчырага, зычлівага чалавека, і плечы яго ўздрыгваюць.

— Не плач, сынок, усё будзе добра,—ціха гаворыць Ланге.— Можа яшчэ выберамся адгэтуль...

— Я бядую не пра гэта, я бядую, што мала зрабіў у сваім жыцці, што мала зрабіў для партыі і што мала біў яе ворагаў...

— Рэвалюцыя нікому не даруе за нашы мукі. Бальшавікі, Коля, непераможныя—мы ведаем,—гэтыя словы Ланге гаворыць не так Білецкаму, як тым, хто стаіць па другі бок дзвярэй.

Яны яшчэ доўга гавораць, пасівелы чалавек і малады хлопец, пакуль нехта з вязняў не пачынае спяваць...

І, будзячы цішыню ночы, на шырокі прастор вырываецца суровая песня пралетарыяту».

Як кантраст гэтай апошняй шчырай гутарцы камуністаў выступае ў аповесці не менш рэалістычная сцэна апошніх захадаў мяцежнікаў-контррэвалюцыянераў, захадаў, скіраваных на выратаванне сваей шкуры:

«Стракапытаў выглянуў у тамбур і гукнуў дзяжурнага афіцэра.

— Тэрмінова збярыце ўсіх штабных афіцэраў і выклічце маю асабістую роту,—загадаў ён.—Трэба знішчыць бальшавіцкіх завадатараў. Іх месца толькі ў зямлі...

— Слухаю, ваша высокаблагароддзе!

— І не марудзь, ідзі, ідзі!—махнуў рукой Стракапытаў, стараючыся як найскарэй выправадзіць з вагона афіцэра, трэба было пераласці ўсё з сейфа ў скураны мяшок...»

Гэты «скураны мяшок», як нельга лепш знойдзены аўтарам, выразны вобраз, каб змясціць у ім усю паўнату ідэйнага выкрыцця ворага. Хай сабе гэтага мяшка на самай справе і не было, але аўтару верыш, што так магло быць, і міжволі прыгадваеш, здаецца, Арыстоцелем выказаную думку: «Гісторыя дае тое што было, літаратура тое, што магло быць».

Уладзімір Якутаў, якога дагэтуль мы ведалі як аўтара строга дакументальных нарысаў пра Калініна, Чарвякова, Галадзеда, Валковіча, адкрываецца новай рысай свайго таленту—імкненнем да здабывання з факта высокай праўды мастацтва.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# ЗАСТАЛОСЯ Ў СЭРЦЫ

Гэтая кніга багатая на радасныя і хвалюючыя сустрэчы. Незабыўныя Янка Купала і Якуб Колас, «чалавек вялікага сэрца» Кузьма Чорны і Змітрок Бядуля, Кандрат Крапіва і Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка і Аляксей Пысін... З імі і з многімі іншымі знаёміць нас Антон Бялевіч у сваёй кнізе «Чарадзеі», у якой сабраны яго ўспаміны, нарысы і літаратурныя партрэты пісьменнікаў, паэтаў і дзеячоў мастацтва рэспублікі.

Чым прываблівалюць «Чарадзеі»? Найперш — шчырасцю, усхваляванасцю, непасрэднасцю і даверлівасцю інтанацый апавядання, зайздроснай уважлівасцю да жыццёвых, зямных, будзённых рэалій. Мусіць жа, якраз гэтымі якасцямі цікавая і адметная паэзія А. Бялевіча.

Найбольш удалыя ў зборніку — нарысы-ўспаміны пра Купалу, Коласа і Чорнага. Аўтару кнігі пашчасціла ведаць іх, сустракацца і гутарыць з імі, і памяць яго праз гады захавала тыя сустрэчы ва ўсёй першароднай свежасці, не загубіўшы, не расстраціўшы нічога, ніводнай, як кажуць, драбніцы. І як жа шмат гавораць цяпер нам гэтыя «драбніцы»!

Не можам не ўстрымацца, каб не прывесці тут адзін эпізод з кнігі — з нарыса пра Кузьму Чорнага «Чалавек вялікага сэрца». А. Бялевіч прыгадвае: «Значна пазней, у адной таварыскай сустрэчы, з добрым, лёгкім гумаркам Кузьма Чорны расказваў:

— Мой хрышчоны літаратурны бацька — Змітрок Бядуля. Ён першы заўважыў і ацаніў мае першыя кароценькія апавяданні. Даслаў іх у рэдакцыю газеты «Беларуская вёска». Заходжу туды. Нікога яшчэ там не ведаю. У каго ж запытацца? Бачу, у адным пакойчыку сядзіць рыжанькі, лупаты, з вогненнаю чупрынаю і ветлівым тварам чалавек. Заўважыў ён мяне, пытаецца:

— Вам хто трэба?

А я і сам не ведаю, хто мне трэба? Разгубіўся неяк. Стаю. Маўчу. А той рыжанькі зноў:

— Можа, вы нешта прынеслі ў газету? Давайце, пачытаем...

І гэтак шчыра, проста. Ласкавы яго голас неяк падбадзёрыў мяне. Сказаў яму, што я дасылаў у рэдакцыю свае апавяданні. Назваў сваё прозвішча.

— Дык вы Кузьма Чорны?!— падняўся ён з крэсла, працягвае мне руку і кажа: — А я — Змітрок Бядуля... Сядайце, — паказаў на другое крэсла каля стала. Я прысеў. Бядуля высунуў шуфляду стала, дастаў нейкую ёмістую папку.

— Апавяданні вашы ў мяне, —кажа.—Прачытаў. Вы, братачка, маеце пяро! Добрае пяро, братачка, маеце!..

Гэ! Павесялела на душы: маю пяро! Яшчэ прыгажэйшаю зрабілася вогненная чупрына. Больш прывабным стаў лупаты, рыжанькі чалавек...»

Маленькая сцэнка, а вось жа нібы напраўду, на ўласныя вочы пабачылі мы і Кузьму Чорнага, і Змітрака Бядулю, паслухалі іх няспешную, характэрную гамонку, і харошаю, незвычайнаю прастатою, шчырасцю, чалавечнасцю павеяла на нас ад гэтае нечакана-радаснае сустрэчы.

Такіх хвалюючых, па-чалавечы змястоўных мясцін у кнізе — шмат. Чытач пераканаецца ў гэтым сам, калі прачытае нарысы «Салаўіная дуброва паэзіі», «Родны Колас», «Праметэеў агонь», «Чарадзеі», а ў іх, перш за ўсё,— успаміны аб сустрэчах — да вайны і ў час вайны — з Янкам Купалам, аб сумеснай працы з Кузьмом Чорным у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», якая выдавалася ў Маскве для беларускіх партызан і для нашых людзей у варожай акупацыі, аб тым, як восенню 1942 года Аркадзь Куляшоў прывёз у Маскву з Калінінскага фронту свой славуты «Сцяг брыгады» і як захапляўся паэмай Аляксандр Твардоўскі, успаміны аб першай сустрэчы з Заірам Азгурам у гасціннай хаце Кузьмы Чорнага... Мясціны гэтыя, напоўненыя шматлікімі жыццёвымі дэталямі, якія ўзбагачаюць наша ўяўленне аб чалавечых і творчых абліччах выдатных майстроў роднага слова новымі штрышкамі і мазкамі, належаць да лепшых старонак кнігі.

Змястоўныя, шчодрыя на тонкія назіранні і трапныя вызначэнні літаратурныя партрэты Пімена Панчанкі, Анатоля Вялюгіна, Піліпа Пестрака, Анатоля Астрэйкі, Міхася Калачынскага, Пятра Прыходзькі, Рыгора Барадуліна. Хораша вершаць кнігу нарысы «Друг беларускай паэзіі» і «Песня — душа народа» — пра даўніх і добрых сяброў беларускай літаратуры, дбайных перакладчыкаў нашай паэзіі, выдатных савецкіх паэтаў Мікалая Асеева і Аляксандра Твардоўскага.

Ну, а мінусы? Яны не дужа вялікія, але, на жаль, ёсць.

Адкрываецца кніга аўтабіяграфічным нарысам «У сэрцы маім пранясу...» У ім А. Бялевіч прыгадвае сваё маленства, свае родныя мясціны, дзе «адкрываліся таямніцы жыцця», людзей, удзячнасць да якіх ён пасля пранясе праз усё жыццё, свае першыя літаратурныя крокі — словам, тое, што вызначыла лёс паэта. Нарыс такі, вядома, дарэчы ў кнізе — ён як бы прадвызначае яе змест і характар, але... Але ён — крыху скарочаная аўтабіяграфія А. Бялевіча з кнігі пісьменніцкіх жыццяпісаў «Пяцьдзесят чатыры дарогі» і таму пазбаўлены навізны.

Асобныя літаратурныя партрэты былі б, мусіць, больш важкімі, калі б у іх было менш агульнай паэтычнай узнёсласці і больш літаратуразнаўчага аналізу, цвярозых разваг. Нейкімі абеглымі, фрагментарнымі атрымаліся нарысы «Землякі» — пра пісьменнікаў, паэтаў і дзеячоў культуры Уздзеншчыны і «Інжынер дзіцячых душ»— пра цудоўнага чалавека і настаўніка, таксама земляка Івана Іванавіча Шаблюка.

І яшчэ адно. Калі чытаеш кнігу запар, нарыс за нарысам, дык міжволі заўважаеш прыкрыя паўторы сітуацый і, калі можна так сказаць, апавядальных прыёмаў.

«Як гэта? — думаў я тады,— Якуб Колас ніколі ні разу не быў тут, а так добра прыкмеціў жыццё, побыт нашай Дуброўкі». Праз некалькі старонак чытаем тое ж самае, але ўжо ў дачыненні да Аркадзя Куляшова: «Прачытаў я і здзівіўся: калі ж ён, гэты Куляшоў, ціхенька, таямніча ў маёй Дуброўцы змог пабываць?» Яшчэ адзін прыклад: «І я ведаў, што Колас гэта бачыць, разумее маю трывогу. Дык чаго ж хавацца? Усё расказаў шчыраму чалавеку». А ў другім нарысе, пра Кузьму Чорнага, зноў: «Бачу: нельга таіцца. Усю праўду расказаў добраму чалавеку».

Думаецца, што гэта аўтарскі недагляд.

**М. ГІЛЬ.**

Антон Бялевіч. «Чарадзеі». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1970.

# ЧАСАМ—ПРОСТА, ЧАСАМ—СПРОШЧАНА

Зборнік «Ластаўка» А. Дзеружынскага адрасаваны дзецям малодшага школьнага ўзросту. У ім сабрана больш за пяць дзесяткаў вершаў і казак рознай тэматыкі. Большасць з іх родніць прастата і даходлівасць расказу, канкрэтнасць паэтычнай думкі. А. Дзеружынскі свядома абапіраецца на фальклор, творча выкарыстоўвае традыцыйныя вобразы і сітуацыі («Радзіўся ў лесе зайчык», «Як сабака стаў сябрам чалавека», «Яйка і курыца», «Конік»). Канкрэтны маляўнічы абразок роднай прыроды ўзнікае перад вачыма, калі чытаеш верш «Ластаўка».

На жаль, сям-там аўтару здраджвае пачуццё такту, меры і густу. Так, цікаваму па задуме і па будове вершу «Агародніцы» замінае сухая натацыя:

Хто ж паверыць<br>Той Алёнцы?<br>Ленаватая была,<br>А таму яе<br>Уся градка<br>Пустазеллем зарасла.

Ці не лепш было б, калі б дзеці самі прыйшлі да гэтага вываду?

У іншых вершах («Майстар і хлапчук», «Кароўка-рагуля», «Янкава пяцёрка») надта ўжо спрошчана, а часам і не па-новаму выказваецца думка. Маленькія героі з верша «Дзеці суп варылі» вельмі нагадваюць даўно вядомых кухарак з верша С. Шушкевіча.

Тым не менш, лепшыя, цікавейшыя старонкі зборніка «Ластаўка» дзеці, трэба спадзявацца, прачытаюць ахвотна і з карысцю.

Цікавыя ў кніжцы малюнкі мастачкі Алены Лось, арганічна з'яднаныя з тэкстам.

**Р. ЛІЦВІНАЎ.**

А. Дзеружынскі. «Ластаўка». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1971.

ПРАБЛЕМЫ, МЕРКАВАННІ, РОЗДУМ

# ЧАЛАВЕК ПРЫЙШОЎ НА СТАДЫЁН



НА ВЕЧАРЫ сімфанічнай музыкі маім суседам аказаўся высокі малады чалавек. Ён слухаў уважліва і засяроджана, быццам баяўся прапусціць нават адзін гук або фразу. Відаць было, што ён разумеў музыку, адчуваў і перажываў яе. Англійскі скрыпач Райманд Коўэн іграў канцэрт для скрыпкі з аркестрам Брамса. А я ніяк не мог пазбыцца думкі, што недзе ўжо бачыў твар гэтага маладога чалавека, яго высокая крыху сутулаватая фігура таксама была мне знаёмая. І нарэшце—успомніў! Ну, вядома ж, на футболе, на адным з апошніх матчаў сезона. Але гэта быў іншы чалавек! Ён таму і запомніўся—грубы, ён увесь час свістаў, ускокваў, выкрыкваў зняважлівыя словы ў адрас суддзяў і футбалістаў. І я здзівіўся яго перамене цяпер—у філарманічнай зале.

Могуць сказаць—ну, што тут параўноўваць, футбол—гэта футбол, а музыка... Ці можна ставіць у адзін шэраг вялікія страсці бессмяротнага брамсаўскага канцэрта з маленькай драмай футбольнага варатара, які прапусціў гол?

Але ж хіба спартыўнае відовішча—гэта не дэманстрацыя высокіх страсцей, волі да перамогі, не выяўленне чалавечага «я»?

Узяць той жа Палац спорту. Ідзе канцэрт. Не прыходзіць жа ў галаву слухачам кінуць чым-небудзь у артыста, які не спадабаўся. Але вось у гэтым жа палацы ідзе хакейны матч. І не дай бог нават лепшаму нападаючаму даць няправільны пас! Яго асвішчуць і зняважаць. Не дадумаецца ж глядач у цырку асвістаць акрабата за «сарваны» нумар. Але не дай бог сарвецца на спаборніцтвах з брусоў вядомы гімнаст! Яго не пашкадуюць.

Стала ўжо нейкім няпісаным законам, што на стадыёне дазволена амаль усё. Чалавек, які прыйшоў на футбол, быццам паліто скідае з сябе, так сказаць, абавязак трымаць сябе прыстойна.

Мне здаецца, што мы ставімся да нашага балельшчыка з налётам гэткай паблажлівай іроніі. У кінафільмах ён звычайна паказаны экспансіўным прасцяком, які міла... стукае парасонікам суседа па галаве. І мы ўсміхаемся і замілоўваемся. І зусім забываем пра іншае. Аднойчы мне трапілася інтэрв'ю вядомага венгерскага футбольнага арбітра. На пытанне журналіста пра ўражанні аб гарадах, дзе яму даводзілася бываць, ён адказаў прыкладна так: «Я ж іх амаль не бачу. Прыеду, правяду матч і дамоў. А пра горад, пра яго культуру, я мяркую па паводзінах стадыёна, па культуры яго балельшчыкаў». Можа варта задумацца над гэтымі словамі?

Могуць запярэчыць—у нас балельшчык добры! Гэта гаворым не толькі мы, але і нашы госці—спартсмены розных краін. Згодзен. Так, наш балельшчык любіць і разумее спорт, ён пераймае ўсё лепшае, чаму вучыць сумленная і бескампрамісная спартыўная барацьба. Нам не даводзіцца абгароджваць футбольныя палі калючым дротам і равамі з вадой, як у Аргенціне ці ў Бразіліі. Але ў мяне, напэўна, на ўсё жыццё застанецца ў памяці звон разбітай шклянкі, кінутай з трыбуны Мінскага палаца спорту нейкім хуліганам у хакейнага суддзю. Было гэта тры гады назад. Забыўся ўжо, які гэта быў матч, з якім лікам ён закончыўся. А вось агідны ўчынак «балельшчыка» запомніўся. Ды яшчэ фігуры хакеістаў, якія збіралі на лёдзе асколкі. Збіралі вельмі старанна: кожны пакінуты кавалачак шкла мог абярнуцца для іх цяжкай траўмай. Успамінаецца група маладых хлопцаў, якія да слёз давялі сваімі выкрыкамі валейбалістку з Адэсы ў час турніру ў Мінску.

Могуць запярэчыць—гэта не тыпова, выпадкі старыя і г. д. Так, не тыпова. Так, хуліганаў хутка спынілі сапраўдныя балельшчыкі. Але запомніліся толькі экстра-выпадкі. А колькі дробнага хуліганства ў час радавых футбольных матчаў? І не толькі ў Мінску, а і ў Брэсце, Гомелі, Гродне. Колькі сядзіць на трыбунах п'яных, колькі бутэлек распіваецца тут жа? А колькі нецэнзурных слоў? Значыць, не ўсё яшчэ добра на нашым «балельшчыцкім небасхіле», **значыць, па-ранейшаму вострая праблема ВЫХАВАННЯ балельшчыка.** І з кожным годам яна становіцца яшчэ вастрэйшай: павышаецца майстэрства спартсменаў, больш гарачымі і бескампраміснымі становяцца спартыўныя баталіі, а значыць, з большым уздымам выбухаюць страсці на трыбунах.

Але як жа ўсё-такі праводзіць гэтае выхаванне? Мне здаецца, у першую чаргу—добрай і чоткай арганізацыяй спартыўных спаборніцтваў. Кожнае спаборніцтва павінна быць сапраўдным відовішчам: цікавым і прыгожым. Канечне, яго галоўная падзея—спартыўная барацьба, дзеля яе людзі і ходзяць на стадыён. Гэта галоўная, але не адзіная частка спартыўнага відовішча. Не менш важная і атмасфера спаборніцтваў, іх дух, афармленне. Адным словам тое, што «ўводзіць» аматара спорту ў спаборніцтва, што стварае яму пэўны «папярэдні» настрой. Ужо само афармленне—яркае і маляўнічае—прымусіць балельшчыка, мне здаецца, паводзіць сябе прыстойна. Мне ўспамінаецца хакейны матч Польшча—Румынія з турніру на прыз газеты «Советский спорт» у Мінску. Ён праходзіў раніцай, узровень майстэрства каманд невысокі, а на трыбунах Палаца спорту тым не менш сабралася даволі многа гледачоў. Відаць таму, што гэта была міжнародная сустрэча і гледачоў прывабіла яе афармленне: яркія касцюмы хакеістаў, рытуал адкрыцця матча, выкананне дзяржаўных гімнаў. Вось аб такім, знешнім, «рэкламным» баку спартыўнага відовішча ў нашай рэспубліцы, на жаль, часта забываюць.

А мы ж умеем арганізоўваць спаборніцтвы! І робім гэта выдатна! У шчаслівых уладальнікаў білетаў на чэмпіянаце Еўропы па спартыўнай гімнастыцы сярод жанчын, напэўна, надоўга застанецца ў памяці гэта цудоўнае свята спорту, маладосці і прыгажосці. Нам запомніліся яркія выступленні гімнастак СССР, ГДР, Чэхаславакіі, вострая спартыўная барацьба. І ўсё-такі, хоць у цэнтры ўвагі гледачоў былі абаяльныя спартсменкі, не толькі яны з'яўляліся «аўтарамі» гімнастычнага свята. Імі былі арганізатары чэмпіянату Еўропы. Яны прадумалі літаральна ўсё, кожную дробязь. Была пашыта спецыяльная, стылізаваная пад беларускі нацыянальны касцюм форма для работнікаў Палаца спорту, створаны ідэальныя ўмовы для работы прэсы і суддзяў (суддзям, дарэчы, нават падносілі кубак гарачай кавы), сапраўдным удзельнікам падзей стаў дыктар-інфарматар, які вёў свой каментарый жыва, аператыўна, з гумарам. А як выдатна было арганізавана свята адкрыцця чэмпіянату—свята мастацтва і спорту. Не было сярод журналістаў ні аднаго, хто не расказаў бы сваім чытачам аб цудоўным відовішчы адкрыцця. «Абавязкова прысвячу гэтаму хараству некалькі радкоў свайго рэпартажу з Мінска», — сказала карэспандэнт польскай газеты «Спорт» Крысціна Стаўская. «Мяне здзівілі «жывыя» скульптуры. Я перадам сваім чытачам, што не ўпэўнены, каму было цяжэй — грэкам стварыць іх ці беларускім спартсменам увасобіць іх у жывых копіях»,—дзяліўся сваімі ўражаннямі Мірка Фішэр—спартыўны рэдактар «Рудэ права». І, канечне ж, некалькі слоў журналіста аб арганізацыі спаборніцтваў у Мінску стане для жыхароў Нарвегіі або Іспаніі маленькім расказам пра Беларусь, пра яе сённяшнюю культуру. Менавіта з гэтых слоў чалавек, які, магчыма, раней і не чуў пра нашу рэспубліку, будзе меркаваць аб ёй. І калі толькі ўсе журналісты расказалі сваім чытачам праўду, можна быць упэўненым, што ў нас з'явілася нямала новых прыхільнікаў за рубяжом.

Гэтак жа чотка і прыгожа правёў Мінск чэмпіянат Еўропы па класічнай барацьбе, першынство свету сярод юніёраў па фехтаванні, міжнародныя турніры па баскетболе, барацьбе, фігурным катанні, плаванні, боксе. Тут думалі аб усім, у тым ліку і пра балельшчыка. І ў гэтай атмасферы, у яго, акружанага клопатамі і ўвагай, як рукой зняло ўсе «дзікія інстынкты»: свіст, выкрыкі, а пра «шклянкакіданне» і гаварыць не даводзіцца.

На трыбунах сядзелі звычайныя людзі, вытрыманыя і далікатныя. Яны з энтузіязмам віталі перамогу сваіх і ветліва сустракалі іх супернікаў. Яны «хварэлі» ад усёй душы, азартна, але—**культурна.** Былі ў іх руках жартаўлівыя плакаты (напрыклад, «Еўропе — прывітанне, Віцебску—золата!»), былі сярод іх свае «завадатары» і «дырыжоры». І калі па балельшчыках на чэмпіянатах Еўропы меркаваць аб культуры нашага горада, дык можна было б паставіць ёй толькі выдатную ацэнку.

Але вось не лунаюць над спартыўнай пляцоўкай рознакаляровыя флагі, не разносяць хлопчыкі ў белых сарочках бюлетэні, надрукаваныя на дзвюх мовах, няма шматмоўнага і шматвочнага журналісцкага натоўпу. Брэст. Чэмпіянат Міністэрства ўнутраных спраў БССР па барацьбе самба. Гэты від барацьбы—адзін з самых відовішчных, самых прывабных відаў спорту. Можа таму, нягледзячы на даволі мізэрную рэкламу, у зале сабралася многа гледачоў. Частка з іх уладкавалася на балконе, іншыя—літаральна тоўпяцца вакол барцоўскіх дываноў. Сесці ім няма дзе, толькі самыя спрытныя прыладзіліся на лаўках для ўдзельнікаў. І тую і другую частку балельшчыкаў нешта аб'ядноўвае: і верхнія і ніжнія—у паліто. Распрануцца перад тым, як зайсці ў спартыўную залу, ім ніхто не прапанаваў. Тут жа, сярод балельшчыкаў і ўдзельнікі спаборніцтваў: яны рыхтуюцца да бою, здымаюць трэніровачныя касцюмы... Ці можна гаварыць аб прыгожым спартыўным відовішчы, аб добрым настроі спартсмена і аматараў спорту? І канечне ж, у зале смех, выкрыкі, свіст.

Часткай свайго жыцця называе вядомы савецкі штангіст Юрый Уласаў спартыўную ўзнагароду. Хіба гэта толькі залаты алімпійскі медаль? Хіба жэтон чэмпіёна вобласці не дастаецца спартсмену напружанай працай? Дык няхай жа ўручаецца такі жэтон у абставінах, якія надоўга запомняцца і спартсмену, і гледачам. У нас жа, на ўнутраных спаборніцтвах цырыманіял узнагароджвання і на чэмпіянаце раёна і на рэспубліканскіх спаборніцтвах падобны як дзве кроплі вады: пад безаблічным лозунгам «Прывітанне ўдзельнікам спаборніцтва!» — п'едэстал гонару (яго можа і не быць). Да яго выклікаюць спартсмена, уручаюць грамату або кубак, пацiскаюць руку і... усё. Ды яшчэ, у лепшым выпадку, сыграюць або «прагоняць» на магнітафоне туш. А можна ж было б прыдумаць які-небудзь рытуал, характэрны толькі для Магілёва, толькі для Мінска, толькі для Гродна.

Калі ўжо гаворка зайшла аб рытуалах, хацелася б сказаць яшчэ адно. Нам здаецца, даўно б пара было распрацаваць характэрныя для сталіцы Беларусі пачатак і канец футбольных і хакейных матчаў. Бо да нас прыязджаюць каманды з усёй краіны. Хіба не важна, каб яны павезлі з сабой добрыя ўспаміны аб сустрэчы ў Мінску? Выйграюць ад гэтага толькі ігракі і балельшчыкі—матч атрымае хоць нейкае афармленне. А пакуль што, калі яшчэ ў пачатку сустрэчы ігракі, прынамсі, абменьваюцца традыцыйным прывітаннем, то ў канцы няма і гэтага. Яны гуртам пакідаюць поле. А колькі ўжо гаварылася аб неахайнай форме футбалістаў і хакеістаў: апоўзлыя гетры, навыпуск футболкі. Дзе ўжо тут казаць аб выхаванні балельшчыка!

Наогул, на футболе і хакеі шматтысячная аўдыторыя кінута на волю лёсу. А можна ж было ў перапынку неяк заняць людзей—правесці паказальныя спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы, веласпорце, акрабатыцы, на хакеі — па фігурным катанні. Чаму б не праводзіць тут спартыўныя віктарыны для балельшчыкаў, розыгрышы жартаўлівых прызоў? Іншы раз такія спаборніцтвы на Мінскім стадыёне праводзяцца, але вельмі рэдка. Думаецца, што ў такія дні змяншалася б на трыбунах колькасць п'яных і менш было б прыводаў у аддзяленне міліцыі. Дарэчы, у час перапынку радыёвузлы стадыёнаў маглі б расказаць і аб злосных парушальніках дысцыпліны: гэта не пашкодзіць. Ды і фотагазета «Голас дружынніка» вісіць усюды, апрача стадыёна.

Думаем, можна было б клопатам пра балельшчыка павучыцца і ў нашых сяброў з іншых рэспублік. Львавяне, напрыклад, выпусцілі цэлую серыю значкоў, прысвечаных сваёй футбольнай камандзе. Хіба не прыемна балельшчыку купіць у дзень матча на стадыёне значок, які нагадае яму аб сённяшняй гульні, з надпісам, скажам: «Карпаты» (Львоў)—«Дынама» (Мінск)? Можна купіць у львоўскіх магазінах і вышытую нарукаўную нашыўку з эмблемай «Карпат». Дарэчы ёсць і іншыя нашыўкі, асноўная тэматыка якіх—спорт. Гэта добры сувенір балельшчыку. Ды і прыбытак ад іх гандлёвым арганізацыям немалы. Можа, варта падумаць пра выпуск такіх сувеніраў і ў Беларусі?

Не пашкодзіла б зрабіць больш яркай і кідкай нашу спартыўную рэкламу. Бо калі футбол і хакей яшчэ рэкламуюцца афішамі, упрыгожанымі якім-небудзь малюнкам, дык рэкламы іншых спаборніцтваў зводзяцца проста да афіш-інфармацый. А добрая ж спартыўная рэклама не толькі інфармуе, яна павінна і прыцягваць людзей на спаборніцтва.

Тэатральная зала... Велізарная чаша стадыёна... Так, гэта не адно і тое ж. А ўсё-такі... І там, і тут нараджаецца цуд—цуд таленту, прыгажосці, і там і тут—выбух чалавечых страсцей, калі да канца напяты кожны нерв, кожная жылачка. Спорт па сваім эмацыянальным уплыве на чалавека ў нечым блізкі да мастацтва. «Я перамог! Гул захаплення ляціць за мной! Сёння мой дзень! І я таксама ствараю! Праўда, я ствараю грубае і непадатлівае. Але ж грубае і непадатлівае не значыць непрыгожае. Радасць людзей, радасць, якая толькі што захліснула залу, пераконвае ў гэтым»,—піша ў сваёй кнізе «Сябе пераадолець» Юрый Уласаў. Дык няхай жа кожная сустрэча са спортам **духоўна** ўзбагачае балельшчыка, павышае яго культуру. І няхай ён са стадыёна выходзіць з такім жа пачуццём, з якім пакідае цудоўны спектакль, з тым пачуццём, што застаецца ў нас пасля сустрэчы з сапраўдным мастацтвам.

**Барыс ГЕРСТАН.**

*БЕЛАРУСЬ НАВУКОВАЯ*

# СЛЕД, ЁН ЗАСТАЕЦЦА...

## РЭПАРТАЖ З БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТА СУДОВАЙ ЭКСПЕРТЫЗЫ

У АДДЗЯЛЕННЕ міліцыі пры чыгуначным вакзале ў Мінску зайшоў сярэдніх гадоў мужчына, у роспачы апусціўся на крэсла, і ледзь чутна вымавіў:

— Чамаданы...

З далейшай размовы высветлілася, што паўтары—два гадзіны таму ён пакінуў свае рэчы на дагляд вельмі прыстойнай з выгляду, сімпатычнай маладой дзяўчыны і пайшоў паабедаць у рэстаран. Вярнуўся — ні дзяўчыны, ні чамаданаў...

Інспектар міліцыі, які браў паказанні, тут жа абмаляваў знаёмую пацярпелага.

— Яна?

Мужчына ўскочыў:

— Так, тая самая. Дык вы яе ведаеце і дазваляеце...

Інспектар уздыхнуў. Вось ужо колькі часу на вакзале «працавала» вопытная аферыстка — па паказаннях пацярпелых— сімпатычная дзяўчына гадоў дзевятнаццаці—дваццаці. Аднаму прапануе ўзяць білет, другому пасцерагчы рэчы. Злавіць яе ніяк не ўдавалася.

Пацярпелы падаў інспектару кнігу.

— Мо гэта чым-небудзь дапаможа? Яе кніга. Калі ішоў абедаць, дала. Кажа: «Каб не было нудна чакаць афіцыянта, пачытайце». Вось, калі ласка, «Прыокская быль»...

Па інвентарным нумары на супервокладцы было зразумела, што кніга бібліятэчная. Але бібліятэчныя штампы былі вырваны. Шукаць па ўсіх бібліятэках Мінска? А мо гэта і не ў Мінску?

Так «Прыокская быль» трапіла ў Беларускі навукова-даследчы інстытут судовай экспертызы. Літаральна праз некалькі гадзін міліцыі дадзен быў адказ, што кніга ўзята ў бібліятэцы трыкатажнай фабрыкі. Далей гэтая дэтэктыўная гісторыя развівалася больш-менш проста. Назаўтра следчыя работнікі ўваходзілі ў кватэру, дзе іх не чакала, натуральна, юная, сімпатычная асоба. Тут жа знайшлі і апошні яе ўлоў — чамаданы.

Дзяўчына скамянела ад нечаканасці, а калі трохі ачуняла, папрасіла:

— Усё раскажу, але як вы знайшлі мяне?

— Сапраўды, як вы даведаліся пра бібліятэку? — пытаюся ў дырэктара інстытута Уладзіміра Пятровіча Іванова.

— Ва ўсіх бібліятэчных кнігах, як вядома, штамп ставіцца на семнаццатай старонцы — тлумачыць ён. — Кавалак гэтай старонкі са штампам быў вырваны. Але да гэтага штамп сутыкаўся з шаснаццатай старонкай і, натуральна, нейкая, няхай і мікраскапічная частка мастыкі павінна была перайсці на яе. Мы прымянілі так званы метад дыфузнага капіравання і атрымалі адбітак штампа. Усё вельмі проста...

Экспертыза, пра якую мы расказалі, адна з прыкладна паўтары тысяч, што праводзяцца супрацоўнікамі інстытута кожны год. Натуральна, не ўсе яны аднолькавыя па важнасці, цяжкасці, складанасці, значэнні і г. д. Але ясна адно — кожная з іх дапамагае высветліць ісціну.

Інстытут праводзіць усе віды крымінальных даследаванняў для судовых органаў, пракуратур, Міністэрства ўнутраных спраў. А ў апошні час тут праводзяцца экспертызы і для Міністэрства сацыяльнага забеспячэння, натарыята, арбітражу і г. д.

Сапраўдная навука ніколі не стаіць на месцы. Натуральна, што пастаянна ўдасканальваюцца і навуковыя метады, тэхнічныя сродкі ў барацьбе са злачыннасцю.

Нават недасведчанаму чалавеку, які пройдзе сёння па кабінетах і лабараторыях інстытута, адразу стане ясна, што навукова-тэхнічная рэвалюцыя не абмінула і гэты ўчастак чалавечай дзейнасці. Назавём толькі некалькі метадаў, якія прымяняюцца экспертамі інстытута. Гэта і здымкі ў ультрафіялетавых промнях, фатаграфаванне карцін інфрачырвонай люмінісцэнцыі, спектральны аналіз, храматаграфія, электрафарэс і г. д. і д. п. На ўзбраенні спецыялістаў — ад звычайнага мікраскопа, да стыласкопа, які вызначае якасны састаў сплаваў, да кібернетычнай машыны.

Загадчык аддзела тэхнічных даследаванняў дакументаў Леанід Міхайлавіч Гулякевіч у адной з лабараторый дае мне прадметны ўрок. На чыстым лістку паперы алоўкам пішацца некалькі слоў. Потым чарнілам гэтае слова закрэсліваецца, правільней, замазваецца так, што і следу ад алоўка не застаецца. Лісток кладзецца ў невялікі прыбор, які нагадвае мікраскоп. Гляджу ў акуляр і свабодна чытаю тэкст, напісаны алоўкам.

Я пішу пра гэта і ўжо баюся, каб у чытача не склалася ўражанне, што судовая экспертыза, — лёгкая справа. Бываюць сітуацыі, і такіх большасць, якія патрабуюць

---

# ВАРШАЎСКАЯ

Алена РАКАВА



ГРАНІЦУ пераехалі ўначы. І адразу перавялі гадзіннік на дзве гадзіны назад — Польшча жыве па сярэднееўрапейскім часе. Варшава сустрэла нас, групу савецкіх музыказнаўцаў і кампазітараў, халоднай пахмурай раніцай. Аўтобус польскага бюро падарожжаў «Орбіс» ішоў па адной з цэнтральных магістраляў сталіцы—вуліцы Маршалкоўскай... Помнік Ф. Э. Дзяржынскаму... Палац культуры і навукі— буйнейшы навукова-культурны цэнтр Варшавы—падарунак Савецкага Саюза... Паварот на вуліцу Свентакшыскую, да атэля «Варшава». На перакрыжаванні—два рэгуліроўшчыкі— хлопец і дзяўчына. У белых «балонневых» куртках і белых пальчатках, яны быццам выконваюць адным ім вядомы рытуальны танец.

Мы прыехалі на XV міжнародны фестываль сучаснай музыкі «Варшаўская восень». Музычныя фестывалі ў Варшаве праводзяцца штогод. Пачынаючы з 1956 года тут пабывалі музыканты і кампазітары з многіх краін свету, гучала музыка самых розных творчых кірункаў, на суд слухачоў выносіліся самыя розныя кампазітарскія крэда.

Адкрыццё XV «Варшаўскай восені» адбылося ў Канцэртнай зале Нацыянальнай філармоніі. На фасадзе—18 сцягоў дзяржаў—удзельніц фестывалю. На сцэне—тыя ж 18 сцягоў. Яны ўмацаваны ў трубах аргана: дзяржаўныя сцягі Польскай Народнай Рэспублікі, СССР, Венгрыі, Чэхаславакіі, ЗША, Югаславіі, Францыі, Італіі, Швецыі, ГДР, ФРГ і іншых краін.

Аркестр Нацыянальнай філармоніі пад кіраўніцтвам дырыжора Вітольда Равінскага выконвае Дзяржаўны гімн Польскай Народнай Рэспублікі. Потым пачынаецца канцэрт. У яго праграме—сімфонія Пауля Хіндэміта, Фантастычнае скерца Ігара Стравінскага, Ронда Нікола Каціньяні. Апошнім выконваецца твор Томаша Сікорскага для змешанага хору, 12-ці медных духавых інструментаў, двух раяляў, чатырох гонгаў, чатырох там-тамаў...

У зале запоўнены ўсе месцы, слухачы цёпла прымаюць праграму. Творы вельмі розныя па задуме, па творчых почырках аўтараў, але цікавыя кожны ў сваім родзе, выкананыя на высокім прафесійным узроўні...

У праграмы канцэртаў «Варшаўскай восені» ўваходзяць творы, напісаныя ў гэтым стагоддзі. І не год стварэння вызначае «папулярнасць», «сучаснасць» музыкі, а адносіны аўтараў да сваёй творчасці, да яго месца ў культуры народа, да слухача, нарэшце.

Гэта пацвердзілі далейшыя канцэрты. Ужо на другі дзень фестывалю слухачы маглі зусім свабодна вызначыць для сябе—як кампазітары разумеюць сучаснасць, якое іх музычнае мысленне, якая сутнасць іх музыкі, яе ідэйная і мастацкая накіраванасць...

Цікава адзначыць, што і ўзрост кампазітараў, прадстаўленых у канцэртах музычнага фестывалю, вельмі разнастайны. Некаторых ужо няма ў жывых. (І. Стравінскі, П. Хіндэміт, Б. Марціні, Ч. Айвз, А. Берг, А. Шэнберг, І. Кофлер), узрост астатніх аўтараў—ад 24 да 65 гадоў. Усяго на фестывалі было прадстаўлена 50 аўтараў і каля 80 твораў. Ужо гэтыя лічбы могуць даць уяўленне аб значнасці гэтага творчага паказу, хоць, паўтараю, музыка гучала вельмі розная па сваёй ідэйнай і мастацка-эстэтычнай каштоўнасці.

На другі дзень адбылося тры канцэрты. Тры розныя канцэртныя залы з рознай аўдыторыяй.

Першы канцэрт прайшоў у зале кансерваторыі — Дзяржаўнай вышэйшай музычнай школы (так называецца кансерваторыя ў Варшаве). Інтэр'ер залы выкананы цікава і арыгінальна. Сцены аддзеланы драўлянымі планкамі.Падлога сцэны—некалькі шырокіх прыступак... Уверсе ўманціраваны арган.

Ідзе камерны канцэрт. Зала слухае ўважліва, але паступова цікавасць спадае. Музыка не даходзіць да сэрца. Побач з арфай, флейтай, скрыпкай, трамбонам, віяланчэллю, фартэпіяна і кларнетам (гэтыя інструменты спалучаюцца ў разнастайных гучаннях у п'есах Багуслава Шэфера, Збігнева Вішнеўскага, Кшыштофа Меера, Вальдэмара Казанэскага) у канцэрце «ўдзельнічае» магнітафонная стужка. Яна ўносіць своеасаблівую фарбу ў агульнае гучанне, аднак уявіць пэўна, якое паходжанне гукаў, запісаных на магнітафонную плёнку, слухачам удаецца не заўсёды.

П'еса для флейты і альта, «Геракліціяна» для арфы сола з магнітафонным запісам і трыо ў складзе арфы, флейты і скрыпкі, для гэтага ж складу «3 контра 3»... Цікава. Вельмі вычварныя «гармоніі», прыблізны «меладызм».

У квартэце Збігнева Пянхерскага ўдзельнічаюць раяль, кларнет, трамбон, віяланчэль і... чатыры метраномы. Метраномы стаяць на табурэтках каля кожнага музыканта, адзін метраном «размясціўся» на падлозе. Музыканты ўключаюць метраномы па адным, усе разам і ў розных іншых колькасных спалучэннях. На гэтым своеасаблівым фоне іграюць свае партыі музыканты. Спачатку здаецца, што яны толькі яшчэ настройваюцца, аказваецца, выконваецца твор. Піяніст стаіць ля раяля і корпаецца са струнамі. Іншы раз ён садзіцца за інструмент і крыху іграе, потым зноў устае і займаецца струнамі, потым б'е па іх нейкай палачкай... Бываюць моманты, калі гучаць толькі метраномы, потым уключаецца магнітафон, а музыканты пакідаюць сцэну. Наступае цішыня. Потым у запісе гучыць квартэт. Музыканты зноў з'яўляюцца на сцэне, пачынаюць іграць. Здаецца, што яны зноў толькі настройваюцца...

Апошняй у канцэрце выконваецца п'еса амерыканскага кампазітара Дональда Эрба, названая «Варшаве з любоўю». Той жа квартэт—з магнітафонам. На плёнцы запісаны гукі самага рознага паходжання: стук, шоргат, завыванне ветру, шорахі і г. д. Гэта фон, на якім разгортваецца «музычнае апавяданне». Піяніст б'е па струнах малаточкам. Потым палівае з бутэлькі, якая стаіць на струнах, нейкай вадкасцю і прыклейвае да струн 3 лісты паперы, іграе. Свішча ў міліцэйскі свісток... Кларнетыст асобна дзьме ў мушткі, асобна— у кларнет. «Кульмінацыя»—трамбаніст іграе на «інструменце», назвы якога я не ведаю. Падобным прыстасаваннем прачышчаюць ракавіну, калі яна забруджана... Нарэшце, піяніст адрывае ад струн лісты паперы, і п'еса заканчваецца.

З першага камернага канцэрта ідзём стомленыя; стомленыя ўражаннямі ад дэманстрацыі музычнага «авангарду», ад таго, што давялося пачуць. Заглядваем у праграмы наступных канцэртаў, яшчэ не падазраючы, што некаторыя з іх дадуць нам магчымасць не толькі паслухаць, але і паглядзець, як «гучыць» сучасная авангардысцкая музыка...

Праграма першага дня — поўная дзіўосных кантрастаў. Гэтыя музычныя кантрасты будуць суправаджаць і наступныя дні фестывалю.

Вечарам у зале філармоніі выступае камерны аркестр Літоўскай дзяржаўнай філармоніі пад кіраўніцтвам Саўлюса Сандэцкіса. Увесь вечар гучыць цудоўная музыка: сімфонія Альгіса Бражынскага, Таката Феліксаса Байёраса, канцэрт для струнных Яна Раатса, восьмы квартэт Дзмітрыя Шастаковіча, прысвечаны памяці ахвяр вайны і фашызму, у пералажэнні для струннага аркестра; твор румынскага кампазітара Багуслава Марціну — канцэрціна для фартэпіяннага трыо і струннага аркестра. Разам з літоўскім аркестрам іграюць салісты—піяністка Галіна Радзвілайтэ, Эдуардас Дзігрыс (скрыпка), Сільвія Нарунайтэ (віяланчэль). Выразнасць стылю, стройнасць формы, свежасць музычных вобразаў — усё гэта вабіць. Увесь вечар льецца ў сэрцы і душы слухачоў прыгожая, сакавітая, насычаная музыка. І пакрысе на другі план пачынаюць адыходзіць уражанні ад дзённага канцэрта. Сапраўдная музыка, музыка сённяшняга дня, музыка з вялікай літары!..



Мал. А. САПЕТКІ.

Рынак Старога Мяста, старана Закшэўскага.

Але будзе яшчэ і трэці канцэрт, начны. Ён пачынаецца ў 11 гадзін вечара, і залу запаўняе публіка, якая рэзка адрозніваецца ад папярэдняй. У асноўным — гэта моладзь.

Італьянец Лючыана Берыо прадставіў на суд слухачоў два творы — Секвенцыю II для арфы і Секвенцыю VII для габоя, дзве вельмі цяжкія для выканаўцаў сольныя п'есы. Трэба аддаць належнае арфістцы Урсуле Халігер і габаісту Хейнцу Халігеру — яны спраўляюцца з задачай вельмі паспяхова. Пра музыку пісаць цяжка, бо аўтар дэманструе не так плынь музычнай думкі, як ігру тэмбраў габоя, разнастайнасць выканаўчых прыёмаў ігры на арфе.

Бернард Пармежыяні выкарыстаў у сваім творы фале Мартэнота і магнітафонную стужку. Фале Мартэнота — інструмент, створаны французскім музыкантам Морысам Мартэнотам, па тыпе электраарганолы, валодае вялікімі выяўленчымі магчымасцямі і ўсё больш прыцягвае ўвагу кампазітараў на Захадзе, хоць яшчэ не вельмі папулярны. Арлета Сібон-Сімановіч вучылася ў Морыса Мартэнота ў Парыжскай кансерваторыі і з'яўляецца вядомай выканаўцай на гэтым інструменце. У яе канцэртным рэпертуары 50 твораў, напісаных кампазітарамі для фале Мартэнота...

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**




КРОЧЫМ берагам ракі да прыстані. Туман парадзеў, сонейка ўжо ўзнялося, радуе, прыгожа блішчыць у росах. І на душы ў нас радасна ды хораша, вясёлыя мы, гаваркія. Што значыць удача! А тут, аказваецца, і вёска пад носам — блукалі-палявалі побач. Я напяваю сабе нешта ўрачыстае, а нястомны Іван Лукіч бяжыць, коціцца паперадзе, усё не можа спыніцца, усё расчулена сіпіць, узрушана лапоча сваім прастуджаным голасам:

— Эх і нацюкалі мы з табой качачак... Ты толькі зірні, зірні, якая прыгажосць! Галоўкі зялёныя, шыйкі беленькія... Адна ў адну. Вось яна, удача паляўнічая! Ды што я табе казаў, га? Успомні, галава і два вухі... Кажу, з пустымі рукамі не вернемся. А ты — не паляўнічыя мы, у руках стрэльбы не трымалі... Глупства ўсё гэта! Які аматар толькі на рацэ і пасвіцца, але так за ўсё жыццё і не скеміць, дзе качкі водзяцца. Чаму, спытаеш? Ды няма прыроднага таленту! Ну, хто здагадаўся б, што дзічына гэтая пад самым носам у вяскоўцаў плавае? Хто? А мне дастаткова было вокам на азерца кінуць і—ёсць!

Іван Лукіч пераможна плюскае вачыма, яго чырвоны круглы твар так і ззяе ва ўсмешцы.

— Са мной, галава і два вухі, не прападзеш! Толькі мацней трымайся за мяне, свайго начальніка... Другі б на такой адказнай пасадзе за месяц спёкся б, а я? Як-ніяк, дзесяць гадкоў кірую. Сакрэт? Ды не ж... Пад носам, пад носам, галава і два вухі, умею бачыць... Ха-ха-ха!

Недзе па рацэ прыглушана гудзе цеплаход. Гэта яшчэ больш узрушвае, настройвае Івана Лукіча на вясёлы лад. Ён, як той хлапчук, робіць нейкія неверагодныя скокі, падкідвае ўгору нізку настрэленых качак і жартаўліва крычыць:

— Жонка-а-а, мы ту-ут! Хутчэй, хутчэй вязі нам, міленькая, бутэлечку пагрэцца...

Цеплаход басавіта адгукаецца яму: чу-ую!

— Бачыш як усё добранька? І жонка едзе ўжо... Дамовіўся! Мы ёй —качак, яна нам — гарэлачкі. Гэй, а ты што там? Нагу муляе? Ну, ну... пераабуйся, а я пабягу, жонку сустрэну.

Я пераабуваюся і з лёгкай зайздрасцю разважаю над шчаслівым лёсам свайго начальніка. Яго рухавая постаць ужо знікла за кустамі лазняку. Я ўяўляю, як ён паказвае нашы трафеі, як выхваляецца перад жонкай і задаволена рагоча.

Але раптам да мяне даносяцца два галасы: вісклівы жаночы і нейкі сварлівы Івана Лукіча... Крычаць, спрачаюцца. Ну, вось табе, прыехала жоначка... Адразу пазнаеш!

Я толькі здзіўляюся, калі Іван Лукіч паспешліва вяртаецца да мяне і сярдзіта сіпіць:

— У цябе ёсць... грошы?

— Ёсць.

— Давай іх усе сюды!

— Навошта?

— Давай, давай!

Нічога не разумеючы, падаю грошы, пераабуваюся і спяшаюся да прыстані. Бачу, як ад Івана Лукіча шыбуе да вёскі нейкая жанчына, а ён стаіць, чамусьці пералічвае нашых качак, прыдзірліва мацае іх, нават нюхае і вельмі злосна дакарае некага:

— Хіба ж гэта птушка, га? Хіба яна каштуе па тры рублі кожная? Ды за гэтыя б грошы на рынку... Цьфу, дахляціна! Глядзець брыдка. Калі трымаеш другая качак, дык кармі іх дома, а не распускай па ўсім лузе...

Да нас зноў ідзе жанчына. На гэты раз — ужо жонка Івана Лукіча. Ён кідае спалоханы позірк у яе бок, моршчыцца, як ад кіслага, і змоўніцкі прыціскае палец да вуснаў: маўчы...

Я—маўчу.

## З НЯМЕЦКАГА ГУМАРУ

Дзяўчына ўпершыню ляціць самалётам і вельмі баіцца.

— Скажыце, фройляйн,—пытае яна сцюардэсу,— як часта разбіваюцца самалёты?

— Толькі адзін раз.

⊙

Віла кіназоркі ахоплена полымем. Пажарнікі нацягваюць палотнішча і прапануюць актрысе выскачыць з акна.

— І не падумаю, — упарціцца тая. — Пазваніце рэжысёру, каб прыслаў дублёрку!

⊙

Зубны доктар свідруе, свідруе, свідруе ў зубе пацыента.

— Пан доктар,— уздыхае ў перапынку пацыент,— запэўняю вас, што нафты ў мяне не знойдзеце.

⊙

Малы Петар бавіўся ў суседзяў і разбіў вялікую вазу. Гаспадар хапаецца за галаву:

— Ваза ж была з 17 стагоддзя!

Петар радасна ўсклікае:

— Дзякуй богу, я думаў, што яна новая.

⊙

Англічанін пабіўся аб заклад з амерыканцам, хто з іх раскажа самую неверагодную гісторыю.

Амерыканец пачаў:

— Жыў-быў амерыканскі джэнтльмен...

— Хопіць, — перапыняе яго англічанін.— Вы выйгралі.

⊙

На ўроку арыфметыкі настаўнік напісаў на дошцы 2 : 2 і пытае вучня:

— Што будзе?

— Нічыя, пан настаўнік, — адказвае вучань.

⊙

Цяжка параненага баксёра прывозяць у бальніцу. У аперацыйнай зале ўрач пытаецца ў сястры:

— Вы ўсыпілі пацыента?

— Мы спрабуем, пан доктар, але як толькі далічым да дзевяці, пацыент падхопліваецца.

⊙

Суддзя аб'яўляе абвінавачанаму:

— За знявагу гонару асуджаю вас на штраф 100 марак. У вас ёсць заўвагі?

— Былі б, пан суддзя, але пры такіх цэнах я лепей адмоўлюся.

## З НАРОДНАГА

### ПАКУЛЬ СОЛІ ПАЗЫЧЫЛА...

*Прыйшла Ганна да суседкі папытацца, ці збіраецца тая на кірмаш. Ды ад здзіўлення пляснула рукамі:*

*— Ты толькі пачынаеш паліць у печы?*

*— Ой, Ганначка, — кажа суседка, — ужо даўно запаліла... Але, бачу, няма солі. Пабегла да Лявоніхі пазычыць. Пакуль вярнулася, дык у печы і прагарэла...*

Мікола ВАЛОШЧЫК.

Рыгор ЯЎСЕЕЎ

## ЭПІТАФІЯ

**Я — памёр.**
**Я — ляжу.**
**Я ў труне.**
**Нават жонка**
**Сумуе па мне.**
**Ганьбавала заўжды**
**І кляла,**
**Ды слязу тут**
**Пускаць пачала.**
**Хіба скажаш ёй:**
**Любая, кінь...**
**Ой, цікава**
**Памерці, браткі!**

**Вось прыйшлі**
**Мой сусед і сябрук.**
**Я ж памёр.**
**Я ж ляжу.**
**Мне — каюк.**
**Шапку зняў**
**Нада мною сусед —**
**Першы раз**
**Прывітаўся як след.**
**А сябрук!**
**Хоць яго і люблю,**
**Не скажу ж я:**
**Давай па рублю.**
**Пастаяў,**
**Уздыхнуў:**
**Эх, Тадор!..**
**На якое**
**Я ліха памёр!!**

**Я — памёр.**
**Пахаваюць мяне.**
**І «казла» не заб'еш...**
**Дзе там, не!**
**Дык не буду ж я**
**Век паміраць.**
**Хто за гэта**
**Пачне дакараць!**
**Вам усім**
**Пажадаць я гатоў,**
**Каб жылі вы**
**Па сотні гадоў!**

## МІМАХОДЗЬ

В. ШАЎЧЭНКА

- Ход траянскім канём.
- Сем разоў адмерай, а адрэж так, як скажа начальнік.
- «Кожны вечар — вечары адпачынку, адпачыць няма калі»,— скардзіўся масавік-забаўнік.
- «Я не даносчык!» — горда заявіў малодшы брат, калі яму прапанавалі данасіць паліто старэйшага брата.

І. БАРКОЎ

- Штохвіліны пазіраў на гадзіннік, а часу эпохі не заўважаў.
- Не ведаў, дзе ўпадзе, а сядаў усюды.
- Бегучы ў магазін, абяцаў хутка вярнуцца: «Я — на адной назе!». Ды вярнуўся на карачках.

С. КУХАРЧУК

- Любіў чыстую работу — таму пісаў толькі белыя вершы.
- Часта з двух сааўтараў адзін — аўтар, другі — АЎТАРытэт.
- Да дваццаці трох рос сам, а пасля — дзякуючы дапамозе высокіх сваякоў, сяброў, знаёмых.
- Прыпісаныя ісціны.

К. КУДЛАЕЎ

- Апладысменты — знак удзячнасці лектару. Часам за тое, што пакінуў трыбуну.

П. САКОВІЧ

- Начальнік меў службовы аўтамабіль, а выязджаў на падначаленых.
- Наступіш на пяткі таму, хто іх падмазаў,— паслізнешся.
- Не кажыце пра сябе дрэнна — іншыя гэта зробяць лепш.

Д. РОХКЕС

- Дурань з вялікай літары.
- Няма чым заняцца? Думай!
- Глядзіш у кнігу — бачыш хвігу. Часцяком па віне аўтара.

І. РАДЗІЕЎСКІ

### ЗНАЙШОЎСЯ

**Арцельны шэф год падбіраў**
**Кіраўніка грашовых спраў,**
**Глядзеў, ці варыць галава:**
**«А колькі будзе... два плюс два?..»**
**І ўсе адказвалі: «Чатыры».**
**Ды вось знайшоўся зух-праныра,**
**Спытаў: «А колькі б вы хацелі?..»**
**І... галоўбухам стаў арцелі.**

М. НАВІЦКІ

### ШЧОДРАСЦЬ

**Ён падарункі ўсім даваў:**
**Заморскім інтурыстам,**
**Пісьменнікам, артыстам,**
**І пачаткоўцам пхаў у жмені,**
**І ветэранам добрых спраў,**
**Ды толькі...**
**Не з сваёй кішэні.**


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-33, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.



Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.

Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, В. М. АЛАДАЎ, А. Ц. БАЖКО (намеснік галоўнага рэдактара), Б. І. БУР'ЯН, А. І. БУТАКОЎ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, І. М. ДАБРАЛЮБАЎ, В. У. ІВАШЫН, А. С. КАЗЛОЎСКІ, П. М. МАКАЛЬ, У. Л. МЕХАЎ (адказны сакратар), Р. К. САБАЛЕНКА, І. А. САНКОВА, М. Г. ТКАЧОЎ, Ю. М. ЧУРКО, Р. Р. ШЫРМА.





Індэкс 63856 АТ 08024